
«Жалезны воўк» → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



XXXV гайнаўскі фестываль → 8


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 21 (3132) Год LXI Беласток, 22 мая 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# XIII Падляшска-Палескія сустрэчы



Раней Міжнародны фестываль «Там по маёвуй росі» адбываўся перш за ўсё ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах. У ходзе фестывалю выступалі народныя калектывы з Падляшша і Палесся, якія прэзентавалі неапрацаваны фальклор, даўнія песні, танцы і абрады. Паказаны матэрыял запісваўся і пасля выкарыстоўваўся падчас фестывальных карагодаў па вёсках. Год назад фестываль «Там по маёвуй росі» пераўтварыўся ў Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росі», якія 6 мая гэтага года пачаліся ў Студзіводах. Удзельнікі сустрэч вадзілі валачобныя карагоды, наведвалі жыхароў Студзіводаў, спявалі ім валачобныя песні і агулькі, а пасля абыходзілі з малітвай жытнёвыя палеткі і паказалі Юр'еўскі абрад. Сярод гледачоў былі дзеці і моладзь з Беластока і Бельска-Падляшскага, а таксама жыхары Гайнаўкі. 7 і 8 мая XIII Падляшска-Палескія сустрэчы праходзілі ў Курашаве Чыжоўскай гміны ды ў Мядзвежыках, Мікулічах, Рагачах і Левашах Мілейчыцкай гміны. У рамках сустрэч Музей малой айчыны будзе ладзіць чарговыя мерапрыемствы ў маі і чэрвені.

Мерапрыемства пачалося з вясенніх песень у Музеі малой айчыны, у якім сабралася многа моладзі і дзетак. Побач дзяўчат з калектыву «Жэмэрва», прыбылі дзеткі і моладзь з тэатральнага калектыву «Антракт» Бельскага дома культуры. Раней Студзіводскі музей наведалі дзве групы вучняў з бельскай «тройкі». З Беластока настаўніца беларускай мовы Аліна Ваўранюк прывезла вучняў Пачатковай школы № 4, якія вучацца там роднай мове.

— Я яшчэ ніколі не бачыў Юр'еўскага абраду. Цікава мне будзе паглядзець выступленні калектываў, — заявіў Мікола Здрайкоўскі, вучань беластоцкай школы.

— Мы, дарослыя асобы, выступалі ў мінулым падчас фестывалю «Там по маёвуй росі» з калектывам «АБ-БА». Цяпер Дарафей Фіёнік запрасіў нашых вучняў паслухаць веснавыя песні, паглядзець карагоды і пазнаёміцца з Юр'еўскім абрадам. Добра, што сустрэча пачынаецца пасля абеду, то нашы вучні пабывалі сёння яшчэ на занятках у школе, — сказала Аліна Ваўранюк.

Удзельнікі сустрэч, выйшаўшы з музея, пайшлі па старэйшай частцы Студзіводаў. Затрымліваліся яны каля панадворкаў, дзе чакалі іх гаспадары, славілі Хрыстовае Уваскрэсенне, спявалі валачобныя і веснавыя песні, вадзілі карагоды.

— Сёння першы дзень мерапрыемстваў у рамках XIII Падляшска-Палескіх сустрэч у традыцыі «Там по маёвуй росі», якія будуць адбывацца цягам мая і чэрвеня. Цяпер мы спяваем і водзім карагоды, а пасля абыдзем жытнёвыя палеткі, што робім здаўна са сваімі сямейнікамі. Гэта вельмі добрая форма адукацыі для моладзі і дзетак, якія прысутнічаюць у мерапрыемстве. Радуе, што вучні цікавяцца беларускім фальклорам, з якім штодзень жылі нашы продкі, — сказаў Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», галоўны арганізатар сустрэч, якія ладзяцца ў супрацоўніцтве з гміннымі асяродкамі культуры ў Чыжах і Мілейчычах.

— Сёлета так склалася, што Юр'я выпала ў першым тыдні Вялікадня. Тады спяваліся валачобныя песні і агулькі, што мы сёння робім. Дадаткова спяваем юр'еўскую песню. Моладзь з «Ільінскай пятніцы» таксама ведае частку нашых песень і сёння іх спявае, — заявіла Альжбета Фіёнік, якая раней дапамагала моладзі з «Антракта» пераапранунца ў народныя ўборы.

Многія ўдзельнікі Падляшска-Палескіх сустрэч у традыцыі «Там по маёвуй росі» былі апрануты па-народнаму, згодна з мясцовымі традыцыямі, канешне, апрача «Ільінскай пятніцы», якая прыехала з Рыгі. Музей малой айчыны не карыстаецца пашытымі ў Рэспубліцы Беларусь касцюмамі, толькі апранаецца ва ўборы, шытыя ў адпаведнасці з мясцовай традыцыяй.

— Мы ездзім па розных краінах і ніколі не паставілі мне такога пытання, як спытаў мяне Дарафей Фіёнік: «Што вы нам параіце рабіць, каб захаваць аўтэнтычны фальклор?». Я даў парады і калі прыехаў праз некалькі гадоў, Дарафей усе іх выканаў або выконваў. Я, між іншым, параіў адшукаць даўнія мясцовыя ўборы і захаваць іх ад знішчэння. Яны прэзентуюцца ў музейнай хаце (на іх падставе былі пашыты касцюмы для калектываў «Жэмэрва» і «Антракт» — А. М.), — сказаў кіраўнік «Ільінскай пятніцы» Сяргей Алёнкін, які з 2004 года ўдзельнічае ў мерапрыемствах Студзіводскага музея.

Перад жыхарамі Студзіводаў заспявала са сваімі сяброўкамі Таіса Фіёнік, дачка Альжбеты і Дарафея.

— Маладзёжны склад «Антракта» спявае цяпер з «Жэмэрвой». Да іх далучаюцца таксама акцёры з тэатральнага калектыву «Рэтра», з якім я таксама займаюся, — распавяла тэатральны інструктар БДК Альжбета Фіёнік, якая пачынала спеў і дадавала адвагі наймалодшым удзельнікам фальклорнага мерапрыемства.

Карагоды хадзілі па вузкіх вуліцах Студзіводаў і па вялікай пляцоўцы каля крыжоў. Пасля ўдзельнікі сустрэч з веснавымі песнямі перайшлі на поле Дарафея Фіёніка, дзе расце жыта. Юр'еўскі абрад быў запрэзентаваны ў натуральных умовах, так як спраўлялі яго ў мінулым.

Дарафей Фіёнік са сваімі сямейнікамі штогод на святога Юр'я абыходзіў жыта, маліўся за ўраджай, качаўся па жыце з сямейнікамі. Пасля Юр'еўскі абрад стаў адной з форм дзейнасці Музея малой айчыны ў Студзіводах.

— Калі я была малая, то мы з сямейнікамі абыходзілі жыта і маліліся за добры ўраджай. Мы качалі па жыце каравай, самі качаліся і гасцявалі на полі, спажывалі каравай і прынесеныя харчы. На полі закопвалі костачкі ад асвечанага напярэдадні Вялікадня мяса, шкарлупінкі ад яек. Радасна правёўшы на прыродзе час, вярталіся дамоў. Юр'еўскую традыцыю перанялі ад нас нашы дзеці Дарафей і Аня. Сталі яны абыходзіць жыта не толькі ў сямейным крузе, але і ў такой вялікай кампаніі, як сённяшняя, — сказала мама Дарафея, Юлія Фіёнік, якая пачаставала валачобнікаў пячэннем і іншымі ласункамі, калі тыя перад яе панадворкам праспявалі веснавыя песні.

Дарафей Фіёнік ішоў праз Студзіводы з іконай святога Юр'я ў руках і вышываным ручніком. Тамаш Суліма прынёс на поле каравай з ручніком. Сабраныя абышлі жыта з малітвамі і спевамі, а пасля качаліся па пакрывалах, якія паклалі на жыта, ды выканалі іншыя дзеянні Юр'еўскага абраду і гасцявалі.

— Мы тут радасна і прыемна праводзім час. Нас цікавіць фальклор. Мы любім спяваць даўнія песні, вадзіць карагоды і паказваць абрады, — гаварылі Дар'я Гліва, Вераніка Кардзюкевіч, Аляксандра Зінкевіч, Максім Фіёнік і Уршуля Алексяк з бельскіх калектываў «Антракт» і «Жэмэрва».

— У мінулым у Пасынках на Юр'я мы таксама хадзілі ў поле і рабілі тое, што сёння паказваем маладым. Пасля Юр'еўскі абрад пачаў знікаць. Добра, што ў Студзіводах можам яго аднавіць. Велікодныя віншаванні, спевы і танцы таксама цікавыя, — сказаў Уладзімір Весялоўскі з тэатральнай групы «Рэтра» Бельскага дома культуры, які спявае ў бельскім хоры «Васілёчкі».

Кіраўнік хору «Васілёчкі» Ніна Бялецкая таксама выступае ў тэатральнай групе «Рэтра» і прыехала ў Студзіводы, каб адзначаць Юр'я па-народнаму.

— У мінулым годзе на Юр'я ішоў дождж, а сёння цудоўнае надвор'е. Можам запрэзентаваць народны Юр'еўскі абрад і праспяваць агулькі, якія ў мінулым спяваліся адразу пасля Вялікадня, — гаварыла кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая.

— Славяне ў Латвіі, у тым ліку і беларусы, не ведаюць Юр'еўскага абраду, з якім мы тут знаёмімся. Але ў нас ёсць свае веснавыя абрады, — заявіў кіраўнік «Ільінскай пятніцы» з Рыгі Сяргей Алёнкін.

XIII Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росі» былі прымеркаваны да юбілею 30-годдзя дзейнасці Музея малой айчыны ў Студзіводах.

— Сёння мы пачалі святкаваць 30-годдзе дзейнасці нашага музея і падчас чарговых мерапрыемстваў будзем працягваць юбілейныя дзеянні. Плануем, між іншым, арганізаваць незвычайную выставу ніўскіх матэрыялаў на тэму нашай дзейнасці, — сказаў Тамаш Суліма са Студзіводскага музея. — У нас зараз ёсць усе нумары тыднёвіка «Ніва», з усіх гадоў выдавання газеты, якой якраз два разы больш гадоў чым нашаму музею. Усе нумары «Нівы» атрымалі мы разам з вялікім кнігазборам ад айца Рыгора Сасны.

Маладыя ўдзельнікі сустрэч, вярнуўшыся з поля, танцавалі яшчэ ў Студзіводскім музеі пад гукі народнай музейнай капэлы.

7 і 8 мая Юр'еўскі абрад — валачобныя карагоды, абыход жыта, спяванне агулек і танцы — удзельнікі XIII Падляшска-Палескіх сустрэч спраўлялі ў Курашаве Чыжоўскай гміны ды ў Мядзвежыках, Мікулічах, Рагачах і Левашах Мілейчыцкай гміны. Да выканаўцаў з Бельска-Падляшскага і Рыгі далучыліся калектывы з Беларусі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА





# Чаму радавацца?

Людзі прывыклі ўспрымаць свет, зыходзячы са сваіх асабістых поспехаў ці няўдач. Аднак бывае, што часам тое, што спярша здаецца пазітыўным, насамрэч прыносіць адмоўныя наступствы і эмоцыі. А часта і наадварот. Меў усё ж рацыю дзядзька Айнштайн, кажучы, што ўсё ў гэтым свеце адноснае і залежыць пад якім вуглом, ракурсам і аспектам разглядаць тую ці іншую з'яву. Але ёсць радасці асабістыя, а ёсць грамадскія, калектыўныя. Калі ў адзін дзень брытанскі „Лестэр" становіцца чэмпіёнам Англіі, а праз дзесяць хвілін ураджэнец гэтай мясцовасці Марк Сэлбі выграе тытул чэмпіёна свету па снукеры, то ўвесь горад як мінімум суткі „стаіць на вушах", святкуе і радуецца поспеху сваіх. Калі крымская спявачка Джамала выграе конкурс Еўрабачання, то цешыцца ўся Украіна, нягледзячы нават на ўсе нястачы, няўдачы і перманентную, надзвычай дзіўную, вайну. Асабіста я за такімі конкурсамі не сачу, стаўлюся да іх надзвычай скептычна і ўсведамляю ўсю суб'ектыўнасць іх вынікаў. Але завочна таксама радуюся за поспех украінцаў. У іх ёсць гэтыя маленькія грамадскія радасці. Канешне, ні перамога Джамалы, ні выхад футбольнай зборнай у фінальную частку Еўрачэмпіянату, не вырашаць праблемы палітычнага крызісу, карупцыі і развіцця гаспадаркі. Але такія падзеі яднаюць нацыю, дадаюць ёй пазітыву і натхнення, ствараюць светлы настрой і даюць новыя імпульсы.

У скрозь аўтарытарных Расеі і сённяшняй Беларусі зусім не так. У пуцінскай Расеі радуюцца пераважна чужым няшчасцям, а ў Беларусі амаль не заўзеюць за сваіх. На тэму таго ж Еўрабачання столькі зласлівасці было ў сацыяльных сетках. Пішуць, што прадстаўнік Беларусі так і застаўся з голым азадкам, і гэта яшчэ не самае з'едлівае. І зразумець, чаму людзі не хочуць заўзець нібыта за свайго, абсалютна можна. Гэта выкікае нават з псеўданіма выканаўцы — ні то Іван, ні то Айван, то па-расейску, то па-англійску, абы не на сваёй мове, абы на нейкі чужы капыл. Грамадскай радасці ў беларусаў усё менш. Вунь дваццаць гадоў дзяржава нібыта развівала хакей і дазвівала да таго, што беларусы прайграюць на чэмпіянаце свету венграм, якія дагэтуль нікога не перамагалі. І ізноў у народзе не расчараванне, а хутчэй нейкая здзеклівая іранічнасць. Панабудоўвалі лядовых палацаў, а новых талентаў так і не вырасцілі, бо ўсё перавернутае ў нас з ног на галаву, бо наперадзе розуму цэлы час фальшывая ідэалогія, а замест рацыянальнасці абсурд.

Пасля албанскага дыктатара Энвера Ходжы па ўсёй балканскай краіне засталіся непатрэбныя бетонныя бункеры. Пасля румынскага ўзурпатара Нікалае Чаўшэску — руіны розных фабрык і хімкамбінатаў. Па-сутнасці будаваліся толькі сцены-макеты прадпрыемстваў, бальшыня з іх ніколі нават не запускалася. Праязджаў дыктатар — пускалі дым у вочы і ўсё. Затое зараз, праз гады пасля падзення сваіх дыктатур, і албанцы, і румыны адчуваюць сябе разняволенымі і ўмеюць радавацца жыццю. І галоўнае — маюць шанцы рэалізаваць свае здольнасці і памкненні. Бачыў я гэта на свае вочы. І падумалася, што некалі так будзе ў нас.

Грамадская радасць — складаная і маладаследаваная рэч. Бывае, што нават пры самых жорсткіх таталітарных рэжымах людзі адчуваюць сябе больш чым шчаслівымі, чым пры самай развітай дэмакратыі. Тыя ж паўночныя карэйцы ядуць траву, пухнучы з голаду, але лічаць, што жывуць у самай свабоднай і шчаслівай дзяржаве. Праўда, гэта канешне не шчасце, а масавы псіхоз, гэткі адчай, вывернуты наадварот. А вось чаму людзі схільныя да дэпрэсіі і нават самазабойстваў у заможных краінах — цяжка зразумець. Ясна толькі, што не ў багацці радасць жыцця, ці дакладней, багацце — не гарант шчасця.

Але радавацца заўсёды знойдзецца чаму ў нашым жыцці. Хоць бы яркаму сонейку ці травеньскаму дожджыку, хоць бы сустрэчы з сябрам ці аднадумцам, хоць бы смеху дзяцей ці келіху добрага напою. Будзем аптымістамі!

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Салодкая булачка



Калі ў старажытным Рыме стала не хапаць таннага, субсідаванага дзяржавай хлеба, успыхнулі крывавыя бунты. Захісталіся падмуркі магутнасці цэзараў. Калі ў школьных крамках, яшчэ ў час прэм'ерства Евы Копач, забаранілі продаж дражджавых булачак, моладзь радыкальна змяніла свае палітычныя сімпатыі. Паказалі гэта апошнія парламенцкія выбары, якія вынеслі ПіС да ўлады ў Польшчы. Вось, ва ўзроставай групе 18-21 гадоў, большая частка выбаршчыкаў аддала свае галасы ў цалкам антысістэмы, антыістэблішментны і антымейнстрымны рух „Кукіз'15". Або на папулісцкі і, па сутнасці, безыдэйны ПіС.

Гэта зусім не азначае, што на новы палітычны парадак у Польшчы значна паўплывала пытанне булачкі-дражджоўкі. Доля маладых людзей, якія маюць права з-за адпаведнага ўзросту на ўдзел у выбарах, не была аж такая значная. Тым не менш, палітычная радыкалізацыя моладзі прагрэсуе. Як той казаў, маладыя рэзка павярнулі направа. Можа быць, нават зарэзка. Ва ўзроставай групе 13-17 гадоў сімпатыя да нацыяналістычных рухаў ужо дасягае 40%. Але гэта не столькі іх захапленне эклектычна-натуралістычнай ідэалогіяй, як выкарыстанай апалагетыкай бясспрэчных каштоўнасцей з супольнацевай канатацыяй, якой дэтэрмінантамі з'яўляюцца сіла групы, яе ўнутраная згуртаванасць, салідарнасць і выразна вызначаныя ворагі. Тым не менш, гэтага я не назаву бунтам пакалення. Ці нават увогуле бунтам. На самой справе, гаворка тут пра салодкую булачку, якая, на думку маладых, належыцца ім па законе прыроды і гістарычнай справядлівасці. Ахоўваныя парасонам бацькоўскай гіперапекі, адкормленыя піцай, чыпсамі і шакаладнымі ласункамі, накіраваныя на тое, каб браць, а не даваць, рэагуюць паводле свайго скрыўленага выхавання і ўдрукаванай у іх нясцеласці: калі ім штосьці адымаецца — абражаюцца, крыўдуюць. Салодкая булачка ў гэтым кантэксце настолькі важная, што можна ёю падсаладзіць сваё стрэсавае жыццё.

Да нядаўняга часу рух „Кукіз'15" прыцягваў да сябе ўсіх крыўдуючых. Нават неабавязкова толькі маладых. Некаторыя з іх крыўдзіліся, што іх пазбавілі права купляць салодкія булачкі, другія на «цёплую ваду ў кране — а чаму ж яна не гарачая?!». А яшчэ іншых абражала тое, што існуючая палітычная сістэма ў Польшчы, грунтуючаяся на двоеўладдзі дзвюх процілеглых ідэалогій, адна з якіх выяўляецца нацыянальна-каталіцкім, а другая ліберальна-асветным лагерам, а гэта толькі мацуе грамадскія падзелы і цывілізацыйны застой палякаў.

Вельмі добра гэта разумее цяперашняя ўлада, якая ўмела кіруе эмоцыямі ўсіх крыўдуючых. У апошні час Міністэрства адукацыі аб'явіла на сваім сайце, што «салодкая цукровая і паўцукровая выпечка, гэта, сыроід іншага, булачкі-дражджоўкі з адпаведным крытэрыем утрымання цукру будуць даступныя ў школьных крамках з 1 верасня 2016 года». Новы праект быў створаны ў супрацоўніцтве з Міністэрствам аховы здароўя і нібыта мае змякчыць дзеючыя законы, прынятыя яшчэ ўладай ад ГП. Замест спіска забароненых рэчываў уводзяцца максімальныя колькасці напрыклад цукру, тлушчу і солі ў прадаванай ежы.

— Мы працуем над такімі рашэннямі, якія паказваюць, што можна харчавацца здаровай ежай, але смачна, — сказаў міністр аховы здароўя Канстанты Радзівіл.

Тое, што міністр аховы здароўя падкрэсліў, тое і падкрэсліў. А што пры нагодзе перакрэсліў, гэта іншая справа. Клопат пра добры настрой маладых людзей не загана. Можа асуджацца няўважлівасць да іх здароўя. Ды што там тое здароўе! Самае галоўнае, што салодкая булачка з'яўляецца палітычным зверам, які праглыне рух „Кукіз'15". Выесць яго да апошняга Паўла.

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Каб адвязаліся?

У апошні час паявіліся два рапарты аб распальванні нянавісці і злачынствах на глебе расізму або ксенафобіі ў Польшчы. Адзін з іх быў падрыхтаваны Дзяржаўнай пракуратурай, а другі Міністэрствам унутраных спраў і адміністрацыі. Нядаўна таксама быў складзены рапарт з бягучага маніторынгу ажыццяўлення праграмы «Беласток для талерантнасці». Яна ахоплівае перыяд 2014-2017 гадоў і са сваіх прадпасылак мае быць супрацьдзеяннем дыскрымінацыі, ксенафобіі і нецярпімасці. Высновы з яе маніторынгу былі падрыхтаваны па ініцыятыве Федэрацыі няўрадавых арганізацый горада Беластока. У сваю чаргу з ідэі дэпутатак ад Сучаснай стварылася ў Сейме парламенцкая група па справах процідзеяння распальванню нянавісці. Над першымі дакументамі дэбатавалі ў парламенцкай камісіі нацыянальных меншасцей. Асабліва цікавыя высновы плывуць са статыстычных дадзеных, сабраных Пракуратурай у дачыненні да злачынстваў на глебе расізму ці ксенафобіі. Ахопліваюць яны перыяд 2013-2015 гадоў, г.зн. перыяд праўлення кааліцыі ГП-ПСЛ. Вынікае з іх, што вельмі хутка расце лік спраў, якія тычацца злачынстваў на глебе нянавісці: у 2015 годзе — 1548 выпадкаў, у 2014 г. — 1365, у 2013 г. — 835, у 2012 г. — 47. У той жа час выяўленне злачынцаў паступова паменшаецца з 2009 года, а вельмі высокі адсотак выпадкаў спынены з-за нявыяўлення злачынцаў. Член камісіі, падляшскі дэпутат Роберт Тышкевіч пасля азнаямлення з дадзенымі сказаў:

— Дадзеныя вельмі трывожныя Яны азначаюць, што меры, якія прымаюцца праваахоўнымі органамі ў гэтай галіне, недастатковыя і не прыносяць чаканых вынікаў. Нам таксама неабходны вялікі адукацыйны, культурны наступ на карысць талерантнасці і адкрытасці ды будавання шырокай нязгоды на нянавісць. Гэта выклік для дзяржаўных устаноў, няўрадавых арганізацый, органаў мясцовага самакіравання, але і ўсіх карыстальнікаў сеціва. Я б чакаў вялікай, агульнапольскай сацыяльнай кампаніі з удзелам людзей спорту, культуры, сродкаў масавай інфармацыі, самаўрадаў, палітыкі, уключна з паліцыяй — каб, нарэшце, у Польшчы дзеянні дзеля талерантнасці былі гучнейшымі, чым дзеянні для нянавісці. Сітуацыя сапраўды выклікае трывогу — каб спыніць яе, нам патрэбны эфектныя дзеянні.

У сваю чаргу з маніторынгу праграмы «Беласток для талерантнасці» вынікае, што была яна падрыхтавана ў якасці дакумента без яўнай фінансавай падтрымкі і без інструментаў для падмацавання яе рэалізацыі, не былі распрацаваны штогадовыя планы дзеянняў. Група па прадухіленні расавай дыскрымінацыі, ксенафобіі і звязанай з імі нецярпімасці, якая мела справу з яе каардынацыяй, арганізаваная прэзідэнтам Беластока ў мінулым годзе, не сустракалася ні разу ў 2015 годзе. На думку аўтараў маніторынгу, яе склад рашуча замалы — гэта адзіныя тры чалавекі (чыноўнікі). Да яе шматлікіх задач належыць дыягностыка, аналіз і маніторынг абшараў горада, на якіх выступае расавая дыскрымінацыя, ці вядзенне і зацвярджэнне прафілактычных праграм. Няма там нікога, хто б прадстаўляў школы або няўрадавыя арганізацыі. Група не кансультуе сваіх дзеянняў. Сярод тых, якія адносяцца да асноў праграмы «Беласток для талерантнасці», большая частка мерапрыемстваў згадваецца як «прэзентацыі», значыць, такія формы, дзе сутнасць паведамлення не з'яўляецца непасрэдным удзелам атрымальніка ў працэсе набыцця ведаў. Найбольш распаўсюджанымі формамі з'яўляюцца лекцыі на школьных занятках і гутаркі. Існуе недахоп дзеянняў, накіраваных на дарослых.

У мяне складваецца ўражанне, што заадно ў маштабе ўсёй краіны, як і самога Беластока, супрацьдзеянне мове і дзеянням нянавісці на рознай глебе, звязанае з правамі чалавека, трактуецца ўстановамі дзяржавы і мясцовага самакіравання як неабходнае зло, па прынцыпе «абы адвязаліся», дзеля нейкай палітычнай каркэтнасці. У той жа час, праблема расце.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Рамантычныя мастакі і змагары



■ Злева: Анатоль Зімніцкі, Андрэй Мікалаеў, Аляксей Трубкін, Мікола Ваўранюк



■ У нас жа не проста мастацкая выстава, а гістарычная, папулярызуючая беларускую гісторыю (вучань Віктар перад рыцарамі айчыны)

**«Беларусы і Падляшша» — жывапісная выстава была арганізавана пры падтрымцы Аб'яднання на карысць дзяцей і моладзі, вывучаючых беларускую мову АБ-БА. Яе можна паглядзець у Пачатковай школе № 4 па вуліцы Чанстахоўскай, 6а. Пасля адкрыцця выставы (13.05.) госці сустрэліся з аўтарамі ў межах дыскусійнага клуба АБ-БА. Пасля выстава наведае Гайнаўку і Бельск. Рамантычна-экспрэсіўныя партрэты асоб важных для беларускай гісторыі, культуры і грамадства з розных эпох падрыхтавалі сябры клуба «Жалезны воўк» з Наваполацка.**



■ Віктар Швед перад партрэтам М. Забэйды-Суміцкага, якога ведаў (карціна Георгія Танковіча)





Ідэя стварэння партрэтаў вядомых беларускіх дзеячаў, звязаных шырока з Беласточчынай, належыць Андрэю Мікалаеву, які з'яўляецца кіраўніком творчага аб'яднання „Жалезны воўк". Серыя партрэтаў (будзе яна пашырана) з'яўляецца працягам праекта „Беларускі Беласток" журналіста Радыё Рацыя Аляксея Трубкіна. Сярод іх — партрэт першага прэм'ера Беларускай Народнай Рэспублікі Язэпа Варонкі (нарадзіўся ён 4 красавіка 1891 года ў Кузніцы), Міхала Забэйды-Суміцкага, Наталлі Арсенневай, ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, Паўла Пракапені, Андрэя Альгердавіча Полацкага, Мікалая Радзівіла-Рудога, Канстанціна Астрожскага, Ігната Грынявіцкага, Кастуся Каліноўскага, Язэпа Булак-Балаховіча, Ларысы Геніюш, Язэпа Драздовіча, Магдалены Радзівіл, ад'ютанткі Эміліі Плятэр Марыі Ружановіч, Івана Грыцука, Алаізы Пашкевіч-Цёткі, Наталлі Арсенневай, Чэслава Немана ды іншых. Партрэты абапіраюцца на рэальныя выявы, аднак з творчым падыходам. Андрусь Мікалаеў пра партртэт Язэпа Варонкі:

— Вось тут гістарычная вуліца Купецкая, дзе калісьці было ТБШ. Магчыма, ён калісьці быў на гэтай вуліцы, дзе пазней дзейнічала Таварыства беларускай школы. Я маляваў з фота, бо забудова не захавалася. Партрэты выкананы ў так званым „постсармацкім стылі". Падляшша з выставы не абмяжоўваецца да сённяшняга Падляшскага ваяводства.

Серыя партрэтаў „Беларусы і Падляшша" працягвае ранейшую серыю „Неасармацкі партрэт", якая была з ухілам у Сярэднявечча. Мастацкія партрэты некаторых асоб створаны ўпершыню, як напрыклад Язэпа Булак-Балаховіча, малодшага брата Станіслава Булак-Балаховіча.

Андрусь Мікалаеў:

— Падляшша — гэта тое, на што мы абапіраліся, паколькі вельмі шмат людзей звязана з ім або тут бывала шмат выдатнейшых асоб беларускай гісторыі. У нас жа не проста мастацкая выстава, а гістарычная, папулярызуючая беларускую гісторыю.

На карцінах паказаны прадстаўнікі магнацкіх родаў Радзівілаў, Сапегаў. Сапраўды, не хапае Хадкевічаў — фундатараў Супрасльскага манастыра, уладальнікаў Гарадка, заснавальнікаў друкарні ў Заблудаве. Але шыкуецца працяг, магчыма што ў супрацоўніцтве з падляшскімі мастакамі.

Творчае аб'яднанне „Жалезны воўк" у Наваполацку ўзнікла яшчэ ў 1997 годзе, спачатку як клуб гістарычнай рэканструкцыі. Пасля ідэя аб'яднання пашырылася, яго ўдзельнікі захапіліся, у прыватнасці, „сармацкім партрэтам". Сябры клуба Андрэй Мікалаеў і Сяргей Руткоўскі ўдзельнічалі ў здымках фільма „Ворагі". Беларускія рыцары прымалі ўдзел у здымках новага расійскага праекта, які стаў сапраўднай кінасенсацыяй. У фільме «Начны дазор» паводле аднайменнага рамана вядомага расійскага пісьменніка-фантаста Сяргея Лук'яненкі прынялі ўдзел 30 рыцараў з калектываў Наваполацка, Мінска, Жодзіна і Ліды, якія ўваходзяць у Канфедэрацыю беларускіх рыцарскіх клубаў. «На нас здымачная група фільма выйшла, дзякуючы падказцы беларусаў, якія жывуць у Санкт-Пецярбургу. Цікава, што на здымкі не запрасілі ні аднаго са шматлікіх расійскіх рыцарскіх клубаў, аддалі перавагу беларусам». Андрусь Мікалаеў на здымках «Начнога дазору» не толькі выконваў ролю аднаго з воінаў «цёмных сіл», але і працаваў у якасці дублёра галоўнага станоўчага героя. Наогул, беларускія рыцары ўдзельнічалі ў здымках у якасці групы каскадзёраў, якія не толькі дэманстравалі свае выдатна зробленыя даспехі, але выконвалі трукі і фехтавалі, займаліся рэканструкцыяй зброі і гістарычнага касцюма, паставілі таксама разам са студэнцкім тэатрам «Крэда» спектакль «Гедымін», у якім драматургія спалучылася з пастановачнымі баямі і сцэнічным фехтаваннем. Пазней былі здымкі ў эпізодах у некалькіх дакументальных стужках, і гэта ўжо было прызнаннем. Фармат прадугледжваў безумоўную гістарычную адпаведнасць — і вопраткі, і зброі.

— „Начны дазор", — кажа А. Мікалаеў, — не лічу мастацтвам, гэта падпрацоўка. Усё ж галоўнае — гэта мастацтва, жывапіс. Але мы адышлі ад формы клуба, які існаваў раней. Мы займаліся рэканструкцыяй рыцарскіх даспехаў, займаліся «неасармацкім партрэтам», была вузкая тэматыка, а цяпер мы гэта змяняем. Пачыналі мы як моладзевы рыцарскі клуб, пасля сталі мы аб'яднаннем, бо далучылася шмат людзей, якія не маюць ніякага дачынення да ваярскай рэканструкцыі. Мы ездзілі кожны год на Грунвальд, у Чэхію, ды ўвогуле ездзіць на рыцарскія фэсты было асноўнай нашай дзейнасцю. Аднак потым нам стала як бы цесна, і не толькі нам, бо да нас далучыліся мастакі. Кожны чалавек, які ўмее маляваць, можа прыйсці да нас — гэта ўсё нефармальна. Мы не клуб і не арганізацыя, а проста людзі, якім гэта цікава. Праўда, не маем памяшкання. Людзі тэлефануюць, кажуць, што хочуць займацца мастацтвам. Не толькі з Наваполацка, неабавязкова майстры жывапісу. З Мінска. Алег Елізараў — з Салігорска. Большасць мастакоў суполкі „Жалезны воўк" яшчэ толькі пачынае свой творчы шлях. Аднак сярод аўтараў ёсць і сталыя майстры з багатым досведам выстаў, такія, напрыклад, як Георгій Танковіч — сябра Беларускага саюза мастакоў. Сустракаюцца і замежныя творцы, як немка Хрысціна Шмідт.

У нас і памяшкання няма. Напрыклад, фехтуем мы ў лесе. Майстэрні таксама не маем. Мы і камеру ў рукі ўзялі, паздымалі кіно крыху самі, вучэбнае кіно, гэта новая галіна для нас. Частка людзей і дзяцей прыходзіць ужо з веданнем мовы. Канешне, у нас існуе білінгвізм. Але людзі, якія дрэнна ставяцца да беларускасці, у нас не затрымліваюцца. Калі чалавек шчыра і добра адносіцца да нашай гісторыі і культуры, нават калі ён сам і не беларус, то гэта добра.

— Герояў можна маляваць не толькі ва ўзвышана-напышлівым рэалізме, але і раскласці іх на каляровыя плоскасці кубізму, дадаць сярэднявечную асіметрыю ці нават прымусіць пазяхаць, — жартуе рыцар-мастак, у адказ на жартаўлівыя закіды, што часам цяжка распазнаць героя ці ягоная выява не надта кананічная.

Выстава „Беларусы і Падляшша" ў Беластоку працягваецца тыдзень (адкрыццё 13 траўня).

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Заблудаўская дэмаграфія

Цяпер у Заблудаўскай гміне пражывае 9 156 чалавек у 58 населеных пунктах. Найбольш у горадзе Заблудаве — 2 433 асобы. Гміна займае плошчу ў 340 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насялення 27 чалавек на адзін квадратны кіламетр. У гміне 45 салэцтваў. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 62% усёй тэрыторыі гміны ды лясы — 31%.

А вось найбольшыя вёскі ў гміне: Дабжынёўка — 704 жыхары, Кур'яны — 601, Рафалоўка — 501, Рыбалы і СКР Рыбалы — 418, Галіцкія — 251, Зяркі — 236, Заблудаў-Калёнія — 233, Крыніцкія — 231, Пратасы — 221, Скрыбічы — 213, Лубнікі — 183, Паўлы — 172, Фальваркі-Малыя — 168, Загрушаны — 159, Фальваркі-Тыльвіцкія — 157, Камёнка — 149, Беласточак — 137, Рэпнікі — 133, Фальваркі-Вялікія — 124, Кудрычы — 119, Кухароўка — 99, Навасады — 98, Пасынкі — 993, Баброва — 85, Целушкі — 80, Козлікі — 79, Плоскія — 78, Кавалёўцы — 76, Жукі — 74 і Астраўкі — 70.

Да сярэдніх вёсак належаць Давідавічы — тут пражывае 66 чалавек, Гнецюкі — 63, Малынка — 58, Сольнікі — 55, Сеські — 49, Заязерцы і Краснае — па 48, Канюкі — 45, Ахрымовічы — 43, Заціша — 42, Алексічы — 41, Альшанка — 40, Ляшкі — 38, Татараўцы — 34, Жыўковаа — 30 і Каўпакі — 29.

Самыя малыя пасяленні гэта Міневічы — 16 жыхароў, Слямянка — 13, Лук'яны — 11, Тэадорава — 6, Рудніца — 3 ды Багданец, Баравікі і Касцюкоўка — па 1 жыхары.

На працягу ўсяго трох гадоў лік жыхароў Заблудаўскай гміны паменшаў на звыш 200 чалавек. Паменшала жыхароў, між іншым, у Дабжынёўцы і Камёнцы, а пабольшала ў Рафалоўцы (ажно на 93), у Кур'янах (на 59), Беласточку, Заблудаве-Калёніі, Загрушанах, Кудрычах, Лубніках і ў Пратасах.

У 2015 годзе ў Заблудаўскай гміне «залатыя вяселлі» згулялі пятнаццаць пар, а сёлета будзе іх 22. У мінулым годзе ў горадзе і ў вёсках памёр 121 чалавек. У гміне кавалераў значна больш чымсьці іх равесніц-дзяўчат, таксама значна больш удоваў чымсьці ўдаўцоў. Жанчыны жывуць у сярэднім на чатыры гады даўжэй ад мужчын. Да найстарэйшых жыхароў у гміне належаць Леакадзія Давідовіч (ёй 104 гады) з Крыніцкіх і Браніслава Васілеўская (103 гады) з Заблудава. У мінулым годзе жыла жанчына, якой было 106 гадоў.

## Гайнаўскія інвестыцыі

Улады Гайнаўкі дбаюць пра гарадскія вуліцы. Штогод па меры фінансавых магчымасцей аднаўляюць маставыя на некаторых даўно асфальтаваных дарогах у жыллёвых пасёлках, кладуць асфальт на тых вуліцах, на якіх яго яшчэ не было ды будуюць новыя веласіпедныя дарожкі.

Сёлета запланавалі перабудаваць вуліцу Арміі Краёвай і разбудаваць вуліцу Заячую (кошт 2,2 млн. зл.), а таксама перабудаваць вуліцу Ястрабіную (100 тыс. зл.). Пабудуюць веласіпедную дарожку на абочыне вуліцы Доўгірда.

У 2016 годзе будуць асфальтаваць вуліцы Грабовую, Мядзведжую і Саколю. Яны атрымаюць дажджавую каналізацыю. Кошт гэтай інвестыцыі складзе 600 тыс. зл.

У гэтым годзе падрыхтуюць тэхнічную дакументацыю на перабудову вуліц Новаваршаўскай, Тувіма, Міцкевіча, Каханоўскага, Ядловай, Кляновай, Ціхай і Трускалкавай — за 120 тыс. зл.

(яц)

# У пошуках шляхоў развіцця



У Ваяводскім цэнтры спорту і адпачынку «Шэльмент», у час інфармацыйна-прасовачнай канферэнцыі датычнай Праграмы развіцця вясковых абшараў (ПРВА) 2014-2020 абмяркоўвалі, у які спосаб грошы з аднайменнага фонду маюць на практыцы ўплыў на развіццё рэгіёна і жыццё жыхароў. І хоць асноўная ўвага ў гэтым кантэксце засяроджвалася на гмінах Сувальшчыны (Елянева, Шыплішкі), на тэрыторыі якіх ляжыць цэнтр «Шэльмент», «Ніва» пацікавілася, як грошы з гэтай праграмы могуць быць выкарыстаны для развіцця абяздюдзелай, занядбанай часткі Падляшша — паўднёва-ўсходніх раёнаў Беласточчыны. Пры нагодзе канферэнцыі журналісты мелі магчымасць убачыць тутэйшую частку буславага шляху, які пралягае ад Станчыкаў да Белавежы, праехацца ўздоўж участка веласіпеднай трасы «Green Velo» што праходзіць праз абшар Усходняй сцяны, убачыць адно з найбольшых сярод найменшых мясцовых азёр — Сумова (33 га), над якім сваю гнездавую калонію мае рэдкі від кажана — сажалкавай начніцы ці пашукаць, існуючай гады два, унікальнай Хаты ятвяжскай памяці ў Шурпілах.

Канферэнцыю (11-12 мая) падрыхтавалі дэпартаменты развіцця сельскіх раёнаў ды сельскай гаспадаркі і рыбалоўства Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства.

Прыярытэтамі новага ПРВА з'яўляецца будаўніцтва і мадэрнізацыя дарог, каналізацыйных сістэм ці інвестыцыі ў экалагічную сельскую гаспадарку.

— Для таго, каб стымуляваць выкарыстанне сродкаў ПРВА 2014-2020, мы хочам паказаць, як нашы інвестыцыі, ужо існуючыя, аказалі ўплыў на развіццё рэгіёна, як змяняецца ландшафт ваяводства і як змяняецца жыццё яго жыхароў, — пераконваў удзельнікаў канферэнцыі член праўлення Ваяводскай управы Стэфан Краеўскі.

Першыя заяўкі на дафінансаванне з новага размеркавання ў рамках ПРВА ўжо трапілі ў Маршалкоўскую ўправу. Пададзена 280 заявак на будаўніцтва і мадэрнізацыю дарог мясцовага значэння. Цікавасць мясцовых самаўрадаў выклікае і будаўніцтва водаправодных і каналізацыйных сетак. Паявіліся таксама ідэі на ўмацаванне гандлёвых кропак для продажу мясцовых прадуктаў.

— Тое, на што трэба звярнуць увагу пры падачы заявак, гэта галоўным чынам добра падрыхтаваны бізнес-план, каб атрыманых грошай не трэба было вяртаць. Роля мясцовага самакіравання не толькі ў апрацоўкі заявак, якія ўплываюць, але і перадачы максімальнай колькасці інфармацыі аб выкарыстанні сродкаў, і мы хочам зрабіць гэта так, каб не трэба было вяртаць гэтых сродкаў, таму што гэта самыя балючыя рашэнні, — сказаў Стэфан Краеўскі, паабяцаўшы ўсю дапамогу ўстановы.

«Ніва» ў кулуарах канферэнцыі распытвала Стэфана Краеўскага аб дзейнасці ў карысць паўднёва-ўсходняй часткі Беласточчыны:

— Сялян, відавочна, у гэтых месцах менш, але паяўляюцца прыезджыя, якія хочуць жыць там. Гэтая новая тэндэнцыя вылучаецца ў апошні час. У гэтай частцы Падляшша вельмі актыўныя фірмы, якія там маюць сядзібы, напрыклад, «Пронар» з Нарвы або «IKEA» ў Кошках Арлянскай гміны. Яны таксама даюць магчымасці для развіцця навакольных тэрыторый, нават праз паступленні ў бюджэты мясцовых самаўрадаў, якія звязаны з іх дзейнасцю. Калі людзі будуць мець там перспектывы працаўладкавання па-за сельскай гаспадаркай, ёсць шанц, што яны будуць заставацца там і туды вяртацца. Усё ж, сельская гаспадарка і там развіваецца. Усё больш і больш сялян купляе зямлю ў тых, хто вырашыў спыніць сваю гаспадарку. Даход гэтых гмін і беспрацоўе на іх тэрыторыі дало ім, аднак, недастатковую колькасць балаў, неабходных для запуску грошай з фонду ПРВА на дарогі. Мы думаем пра тое, што — калі паявяцца грошы з пасляаўкцыённых ашчаднасцей або будуць яны перададзены ад іншых відаў дзейнасці — зрабіць так, каб яны туды трапілі на гэтую мэту. Нам сапраўды залежыць на ўстойлівым развіцці ваяводства. Таксама мы павінны пагаварыць з мясцовымі самаўрадамі гэтай часткі Беласточчыны аб патрэбнай для паўсядзённага жыцця, але і стратнай, сетцы чыгунак. Узнікае транспартны план, у рамках якога будзем аднаўляць рэгіянальныя шляхі, а грошы будуць накіраваны на рэканструкцыю меншых чыгуначных ліній. Для гэтай мэты таксама павінны з'явіцца сродкі з агульнапольскага бюджэту.

Гісторыю ўзнікнення інвестыцыі, якой з'яўляецца Цэнтр спорту і адпачынку «Шэльмент» наблізіла падчас канферэнцыі дырэктар дэпартамента развіцця сельскіх абшараў Маршалкоўскай управы Альжбета Філіповіч. І хоць «Шэльмент» быў пабудаваны ў 2007-2008 гадах на аснове фондаў ЕС, не былі гэта яшчэ сродкі ад ПРВА. Але ўжо новыя інвестыцыі ў гмінах, дзе Цэнтр размешчаны (будаўніцтва каналізацыі ці агратурыстычных гаспадарак) — ужо так. У рамках ПРВА ў гмінах Елянева і Шыплішкі ўзнікла восем праектаў на конт начлежнай базы, дзевяць датычных турызму і спорту, адзінаццаць у галіне прамоцыі, восем — культуры і нацыянальнай спадчыны, сем у галіне водазабеспячэння і водаадвядзення. У рамках інвестыцый, звязаных з развіццём цэнтра, палепшылася дарожная інфраструктура, была пабудавана лябёдка, скаладром і канатная лінія, былі пашыраны дзвюма дадатковымі ніткамі шлях «Green Velo».

Удзельнікі канферэнцыі маглі на ўласныя вочы ўбачыць, як у гміне Елянева на тэрыторыі Сувальскага ландшафтнага парку функцыянуюць агратурыстычныя гаспадаркі і як іх уладальнікі, дзякуючы грашам ад ПРВА, увесь час іх пашыраюць, каб задаволіць растучыя чаканні турыстаў. У адной з іх — Здзіслава Януўскага з Гульбянішак, размешчанай паміж двума азёрамі, — ужо дзейнічае басейн, а ўладальнік плануе яшчэ саўну. Другая гаспадарка, экалагічная таксама ў гэтай мясцовасці — Марка Гапоніка і яго жонкі Евы — можа адразу прыняць дванаццаць турыстаў у доме — як сказалі ўладальнікі — з душой. Часта яны здаюць у арэнду ўсю гаспадарку на пяці тысячах квадратных метраў зелені, аддаючы яе ў выключнае валоданне наведвальнікаў. **Марк Гапонік** (на здымку):

— Многія намі цікавяцца. Турысты прыязджаюць у асноўным у летні час. Зімой, як надвор'е добрае, таксама, у асноўным з-за таго, што блізка атракцыёны асяродка «Шэльмент». Асабліва падчас Каляд і Новага года.

Марк Гапонік прыехаў сюды адзінаццаць гадоў таму. Адсюль родам ягоная жонка, а ён і яго сям'я з ваколіц Саколкі.

Уладальнікі агратурыстычных гаспадарак і самаўрадаўцы з гмін Шыплішкі і Елянева разлічваюць на сродкі ад ПРВА з бягучага размеркавання сродкаў. Як адзначыла дырэктар Філіповіч, патрэбаў у рэгіёне шмат, і ў асноўным на дарожную інфраструктуру і каналізацыю, але ёсць і такія, як разбудова школ, дзіцячых садкоў, ясляў, дзіцячых гульнявых пляцовак. Не хавала яна ў размове з «Нівай», што гэта датычыць асабліва паўднёва-ўсходняй Беласточчыны:

— Кожная частка нашага рэгіёна мае свой уласны ўнікальны характар, і ўсё ваяводства неаднароднае. У турыстычным плане найбольш развіта Сувальшчына з-за сваіх прыродных якасцей. Гэта праўда, што ў нас ёсць яшчэ Аўгустоўская, Кнышынская і, вядома, Белавежская пушчы, вакол якіх развіваецца турызм, але не развіваецца там у шырокім маштабе, як можна ўбачыць на Сувальшчыне. Мы сустрэліся тут, каб паказаць, як адна інвестыцыя — асяродак «Шэльмент» — прывяла да больш эфектыўнай прамоцыі гэтага абшару і большай цікавасці да яго. У іншых частках Падляшша ПРВА падтрымлівае тыповыя сельскагаспадарчыя дзеянні, але ў нас ёсць такія тэрыторыі, як абязлюдзелая паўднёва-ўсходняя частка Беласточчыны. Яны таксама прывабныя, маюць адметныя рысы клімату, прыроды, прыгожыя пейзажы, але не надта папулярныя сярод турыстаў. Такім чынам рэалізуецца мадыфікаваны механізм падтрымкі мясцовага развіцця, кіраванага супольнасцю, дзе мясцовыя групы дзеяннаў будуць мець у сваім распараджэнні значна больш рэсурсаў, чым раней, якія паходзілі з трох розных фондаў ЕС. Гэтыя мясцовыя групы змогуць рэалізаваць свае ідэі па развіцці тэрыторыі ў адпаведнасці з яе спецыфікай. Ад удзелу мясцовых супольнасцей у паўднёва-ўсходняй Беласточчыне будзе залежаць тое, што будзе тут такой флагманскай інвестыцыяй. Многія вёскі на гэтай тэрыторыі мяняюць свой характар з сельскагаспадарчых на курортны. Аднак, каб мелі яны ў такой форме здольнасць для выжывання, яны павінны быць забяспечаны дадатковымі прапановамі: доступам да крам і асноўных паслуг, добрым даездам і г.д. І гэта праблема, з якой зараз трэба справіцца, нам як самаўраду ваяводства, гмінам і мясцовым ініцыятыўным групам. Шляхоў вырашэння гэтых праблем будзем шукаць.

У бліжэйшы час у рамках ПРВА будуць абвешчаныя чарговыя конкурсы, звязаныя з інвестыцыямі ў базары і аб'ектамі для прамоцыі мясцовай прадукцыі (у ліпені) і з водна-сцёкавай гаспадаркай (у жніўні). На першае дзеянне адведзена 4,3 мільёна еўра, на другое 12,5 мільёна еўра.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# З крынскай бібліятэкі

**Жывуць у Крынках людзі-анёлы. Не ведаю колькі іх тут дакладна пражывае. Я асабіста сустрэла чацвёра. Сярод іх — 26-гадовы крынчанін Пётр Звяжынскі. Па-анёльску пазбягае ён камер, рэфлектараў, мікрафонаў і дыктафонаў. Хаця займае пасаду дырэктара Гміннай бібліятэкі, на працу апранаецца ў чорную, спартыўную вопратку. Усё робіць сам, нават парадкі наводзіць у бібліятэчным агародзе бо, як кажа, клікаць на дапамогу іншых мужчын з гміннай інтэрвенцыі яму не гонар.**



Не адмовіўся ад сустрэчы з журналістам нашага тыднёвіка, хаця, убачыўшы дыктафон, на хвіліну адняло яму мову.

Пётр Звяжынскі стаў дырэктарам Гміннай бібліятэкі ў Крынках адносна нядаўна, дакладна 1 жніўня 2014 года. Назначэнне ўспрымае як неспадзяванае, нечаканае вылучэнне. Раней працаваў у Беластоку. Не наракаў, прывык, але, вядома, працуючы на месцы можна крыху даўжэй паспаць.

Драўляны будынак крынскай бібліятэкі — помнік архітэктуры — знаходзіцца ля самой царквы. Старажылы кажуць, што калісь працавала ў ім царкоўная школа. Затое ніхто ў Крынках не ведаў, апрача светлай памяці Сакрата Яновіча, што ў гэтым будынку ў міжваенны перыяд дзейнічала таксама беларуская школа пратэстанцкага святара Лукаша Дзекуць-Малея.

**— Чым адзначаліся Твае першыя дні ў крынскай бібліятэцы?**

— Агульна кажучы, размерам працы парадкавага характару. Гэта быў сапраўдны выклік для мяне. Інспектары з Падляшскай ксёнжніцы занатавалі: „Працягваць упарадкаванне кнігазбораў", прытым без асаблівых указанняў, паколькі ўсё патрабавала генеральнага ўпарадкавання — дакументацыя, каталогі, кнігазбор, селекцыя, класіфікацыя. З цягам часу я пачаў усведамляць сабе колькі ў мяне тут працы.

**— Якім каталогам карыстаешся?**

— Пакуль што папяровым, але ў бліжэйшых планах прадбачваецца ўвядзенне яго электроннай формы.

**— Цяпер крыху пра сам кнігазбор.**

— Стараюся сістэматычна папаўняць яго новымі выданнямі. У актуальным спіску бестселераў, калі ласка (*смяецца прэзентуючы мне кніжку Марціна Концкага „Białystok. Biała siła. Czarna pamięć"*). Чакае спецыяльнай нагоды, у сэнсе, калі нехта не ведае, чаго хоча.

**— Як спраўляешся з кніжнымі закупамі ?**

— Карыстаюся гміннымі і міністэрскімі датацыямі. Бываюць таксама кніжныя падарункі ад чытачоў. Як малады і неначытаны, я ў выбары кніжак кіруюся падказкамі чытачоў, чытаю кніжныя рэцэнзіі, слухаю літаратурныя радыёперадачы.

**— Хто прыходзіць у бібліятэку?**

— У асноўным жанчыны сярэдняга ўзросту. Тут людзі прывыклі да несамастойных выбараў. Шчыра кажучы, танных раманаў ніколі не прапаную, таму што дастаткова ў нас вартасных кніжак пра любоў ці жыццё ўвогуле. Дзеткі сюды таксама заглядаюць. Для іх падрыхтаваў я спецыяльны куточак чытача і хачу набыць сучасныя настольныя гульні. Цяпер заўважаю зварот да менавіта такога тыпу гульняў.

**— Ці моладзь знаходзіць час на кніжку?**

— Тут справа складаная. Ёсць сталыя чытачы і яны чытаюць сапраўды шмат. Шукаюць канкрэтнай літаратуры, падказваюць мне, што варта набыць. У тым выпадку можам гаварыць не пра колькасць чытачоў, але пра іх якасць.

**— У калідоры бачу столік з прэсай.**

— У асноўным жаночай, некалькі штодзённікаў і, вядома, „Часопіс".

**— Як выглядае справа з беларускай літаратурай? Ці нехта карыстаецца ёю?**

— У маёй кар'еры гэтае яшчэ не здарылася.

**— Нядаўна Ты мне сказаў, што Твая бабуля пісала ў „Ніву".**

— Даведаўся я пра гэта зусім выпадкова. Рамантуючы бабуліну хату, знайшоў старыя нумары „Нівы" і пісьмо ад рэдакцыі з падзякай за артыкулы. Гэта былі допісы пра кулінарыю. Праўду кажучы, я не змог дакладна расшыфраваць ніўскага пісьма, таму што не ведаю беларускай мовы.

**— Як звалі бабулю?**

— Надзея Звяжынская, у дзявоцтве Іванюк.

**— Бывае, што бібліятэка выконвае зусім не статутныя ролі. Ці Ты з гэтым знаёмы?**

— Так, у бібліятэку заглядаюць розныя, зусім нечаканыя госці. Помню, я тады толькі пачынаў сваю працу, гарцэраў з фотакамерамі і смартфонамі накіраванымі на мяне. Наведаўся гурток прагных ведаў дзяцей. Здорава я тады напалохаўся. Я быў зусім непадрыхтаваны на такую сустрэчу. Ніколі раней не ўглыбляўся ў гісторыю Крынак. Але вывучыў я, хаця б для студэнтаў, якія з'язджаюць да мяне з розных куткоў Польшчы. У сезоне турыстаў сапраўды шмат, быццам у сапраўдным цэнтры інфармацыі.

**— Ведаю што апрача ўпарадкавання і апрацоўкі кніжных каталогаў знаходзіш час на іншыя формы дзейнасці.**

— Вось разам з мясцовым дзіцячым садком неўзабаве пачынаем цыкл літаратурна-мастацкіх сустрэч.

**— Супрацоўнічаеш таксама з жаночым фондам „Торг крэатыўнасці" з Лапіч.**

— Ладзілі яны тут свае майстар-класы па рукадзеллі. Цяпер хочам супольна пераўтварыць адну з бібліятэчных залаў у невялікі кінатэатр. Думаем пра рэгулярныя кінасеансы. А з мясцовым домам культуры арганізуем дэкламатарскія конкурсы для дзяцей.

**— Вядзеш тут бясплатныя ўрокі ігры на гітары. Іграеш у крынскіх „Лотасах" і „Заранцы". Гаворачы пра апошні калектыў, гэта Твая першая сустрэча з беларускай песняй.**

— Што цікава, хаця з маім веданнем беларускай мовы вельмі кепска, я разумею галоўны сэнс песень. Раней я іграў моцную, агрэсіўную музыку, цяпер паціху ўваходжу ў новы музычны клімат. Самым важным для мяне з'яўляецца працэс супольнага музыкавання. У „Заранцы" бачу вялікі патэнцыял. Думаю, што ўсё яшчэ наперадзе. Неўзабаве сам стану бацькам. Спадзяюся, што наш калектыў з часам пашырыцца.

Гутарыла Іаанна ЧАБАН

## Кніжкі Анджэя Стасюка

Не ведаю чаму, але я вельмі люблю чытаць кніжкі вядомага польскага сучаснага пісьменніка Анджэя Стасюка. Можа таму, што, выбіраючыся ў падарожжа, Стасюк выбірае курс на ўсход або поўдзень Еўропы. Пісьменнік едзе ў глыбінку, на правінцыю Расіі, Малдовы, Манголіі ці на Балканы. Ніколі яго не цікавяць багатыя краіны, дзе ўсё прыгожае як з пацёмкінскага горада, на паказ. Яго цікавяць краіны, дзе знаходзіць частку эпохі мінулага камуністычнага строю. Гэты свет адлюстроўвае ў сваёй навейшай кнізе „Wschód". Аўтар з сентыментам паказвае забыты свет вёскі яго дзяцінства і маладосці 1960-1970-х гадоў, свет, які адышоў у нябыт. Разам з хваляй пасляваеннай міграцыі маладыя людзі хлынулі ў найбольшыя гарады Польшчы. Таксама бацькі Стасюка выехалі з вёскі ў Варшаву і сталі сяляна-рабочымі (chłopo-robotnikami). І ў такой сям'і нарадзіўся ўжо ў горадзе Анджэй Стасюк. Стасюк у сваіх кніжках уцякае з горада ў вёску. Дарэчы, ён фізічна пераехаў з Варшавы ў Бяшчады. Жыве з жонкай сярод лясоў, балот і тут адчувае сябе самым шчаслівым. Такі яго рай на зямлі.

Што да кнігі „Wschód", то для Стасюка не цікавае падарожжа ў Санкт-Пецярбург ці Маскву, але ў пагранічча Расіі з Манголіяй ці Кітаем. Усюды, аднак, вяртаецца расчараваны. У Расіі бачыць даміацыю кітайскіх прадуктаў, а ў Манголіі — пакінутыя вёскі. Аднак у Манголіі трапляе да традыцыйных пастухоў, у якіх бачыць людзей блізкіх духам да сялян у Польшчы ў 1970-х гадах. І зноў Польшча, і вяртанне ў дзяцінства, у родную вёску яго дзядоў на Падляшшы. Вобраз маці — старэнькай бабулькі, якая больш цікавіцца сучаснасцю чымсьці гісторыяй. А пісьменніка не цікавіць сучаснасць, але тое, што было калісьці. Тое ж у зборніку апавяданняў „Opowieści galicyjskie". Забытая правінцыя польскага падкарпацкага раёна, дзе стары саўгас, нейкае забойствы, таямнічая маладая дзяўчына. Свет, у якім сустракаецца балючая гісторыя з сучаснасцю. У кожнай кнізе Стасюка заўсёды той жа матыў — старая забытая царква, апусцелыя пасля Акцыі „Вісла" ў 1946 годзе лэмкаўскія хаты. І нянавісць да крыўды ўкраінскай меншасці, да камунізму, які сілай перасяліў лэмкаў з Падкарпацця на захад Польшчы. У кнігах Стасюка крыўда да палітычнага ладу, які прычыніўся да апусцення вёсак. Ён „хлопа-работнікаў" паказвае як людзей без тоеснасці, утопленых у шэрую вопратку горада. Кнігі Стасюка вельмі актуальныя зараз. Яны пра разбурэнне гармоніі паміж гісторыяй і сучаснасцю. Падарожжа туды, дзе засталася частка гэтай гармоніі, суцяшае аўтара. Думаю, што варта чытаць кнігі Стасюка тым, хто тужыць па даўнім свеце. Гэта датычыць і Падляшша, з якога многа жыхароў выехала ў глыб Польшчы або і за мяжу. А на іх месца пасяляюцца варшавякі, якія дацэньваюць тое, што мы беззваротна страцілі. А з другога боку і так ніякі строй не стрымаў бы машыну культуры глабалізацыі, якая раней ці пазней дайшла б як не ў мінулым, дык у гэтым стагоддзі.

Юрка БУЙНЮК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Вясёлая пятніца 13 мая ў Гайнаўцы!

— Ці гэта не было самае лепшае выступленне?! — не хаваючы гонару пытае рытарычна пані Іаанна Паўлючук.

У адказ з боку публікі грымнула бура воплескаў.

— Ці гэта які школьны рок-гурт? — пытаем. — Бо так праспявалі «Тры чарапахі», што ажно дым пайшоў!

Аказваецца, што не, тут звычайны шосты клас. Кожны клас меў абавязак нешта падрыхтаваць на свята. І вось, яны падумалі пра гурт «Н.Р.М.» і песню «Тры чарапахі». Як не цікава, падрыхтаваў іх выхавацель, у прыватнасці настаўнік інфарматыкі. Спявалі ўсе, нават тыя, што не вывучаюць мовы. У гэты клас якраз ходзіць сын спадарыні Іаанны. Сама яна родам з Аўгустова што на Сувальшчыне. Яе сын і дачка ад пачатку вывучаюць беларускую мову:

— Dzieci kochają nauczycielki języka białoruskiego, — кажа, — nasze panie odadają im całe serce.

Школьнае «Свята беларускай культуры», якое ўжо чацвёрты раз наладзілі ў гайнаўскай «шасцёрцы», напамінала вясновы карнавал. Яго дынаміка, каляровасць і інтэнсіўнасць проста ашаламлялі. У гэты раз свята мела міжнародны, тобок, польска-беларускі характар. У госці прыехалі вучні і настаўнікі Сярэдняй школы № 9 з Брэста. Сярод гасцей мы прыкмецілі падвойную фіналістку дзіцячага міжнароднага конкурсу Еўрабачання. Мова пра Ангеліну Піпер. Ангеліна, хоць выступала ўжо ў Маскве, Сан-Рэма і Мінску, з задавальненнем выступіла на школьным гайнаўскім святе. Яна якраз вучаніца 10 класа Брэсцкай сярэдняй школы № 9. Што хоча сказаць пра свае поспехі? Нядаўна на Дзень перамогі яе выкананне мілітарнай песні «Тры танкісты» было адчынена больш за мільён разоў (знойдзеце яе пад лозунгам Angelina Pipper на You Tube). Пытаем у прыгажуні адкуль у яе такое арыгінальнае прозвішча.





Ангеліна Піпер



«Аксамігны летні вечар» у выкананні школьнага аркестра

— Мой бацька нарадзіўся на Каўказе, а мама ад Брэста, беларуска. Уся наша сям'я такая «эстрадная», — дадае спявачка. — Мой брат танчыць у калектыве «Радасць».

А ці цікава ёй выступаць на школьным мерапрыемстве?

— Нармальна! — кажа Ангеліна.

Дам'ян Галёнка разам з сябрамі біў моцнае брава для Ангеліны. Сам таксама выступіў на сцэне. Разам з сябрамі-аднакласнікамі грымнулі «Касіў Ясь канюшыну». У словах адчуваўся мужчынскі гонар. І тое, што спадабалася нам — хлапец гаварыў на прыгожай беларускай мове.

У гэтым плане паказалі сябе дзяўчаты з Арэшкава. Прыехалі па сяброўскай лініі. Спявалі і танчылі, а галоўнае — паглядзелі як гуляюць гайнаўскія і брэсцкія аднагодкі. Якая чакае іх наступная беларуская імпрэза?

— Хутка Свята Маці, — кажа Малгажата Галёнка, лаўрэатка першага месца ў «Беларускай гавэндзе». — Таму мы рыхтуем выступленні. А пасля паедзем школай на экскурсію ажно ў Вільню.

Гайнаўскае «Свята беларускай культуры» адбывалася на некалькіх узроўнях. Дзень з выступленнямі папярэдзілі фатаграфічны, мастацкі і літаратурны конкурсы пад адным лозунгам «Што такое Бацькаўшчына?». Плён прэзентаваўся на адмысловых стэндах, якія пасля наведаюць яшчэ Гайнаўскі беларускі музей. На святе таксама прэзентаваліся этнічныя тканіны і каравai. У мастацтве абрадавага печыва Гайнаўку можна назваць лідарам. З аднаго пятага класа дзеці прынеслі ажно пяць розных караваяў. Адны былі прыбраны па-вясельнаму, іншыя ўяўлялі сабой юр'еўскі каравай, з якімі нашы продкі хадзілі гасцяваць у поле.

Трэба дадаць, што мозгам і вядучымі мерапрыемства былі настаўніцы беларускай мовы Людміла Грыгарук і Бэата Кендысь.

— Рыхтаваліся амаль палову года, — кажа спадарыня Людміла. — Часта сядзелі ад сёмай да пятай гадзіны. Усе дапамагалі, настаўнікі ў паасобных класах, нашы цудоўныя бацькі, новая пані дырэктар Бажэна Маркевіч. Ці такое свята мяняе нешта ў жыцці школы?

— На штодзень не адчуваецца, што беларуская мова важная, — кажа настаўніца, — аднак калі ставім перад сабой выклікі і супольна працуем, беларуская справа жыве, ідзе наперад. Для нас цікава наведаць сяброў у Беларусі.

У час, калі мы размаўлялі пра арганізацыйныя клопаты, да нас падбеглі радасныя дзяўчаткі з гімназіі. Ім даручылі апекавацца сябрамі з Брэста. Дзяўчаты наблізіліся да настаўніцы, каб сказаць ёй адно:

— Poszę panią, oni są naprawdę fajni!

У гэтым адчувалася падзяка і радасць ад беларускага свята.

**ЗОРКА**

**фота Ганны Кандрацюк**

*Міра ЛУКША*

## Лаўр

*Лаўровы ліст у суп*
*да бульбы і да круп,*
*лаўровы ліст у вянец –*
*завяршыць удалы канец.*
*Строіў кесараў галовы*
*духмяны вянок лаўровы,*
*пераможцаву і майстрову...*
*Над морам Міжземным*
*пахацеў так прыемна,*
*што не толькі для славы*
*бралі галінку, й для стравы*
*люд просты, але й патрыкіі*
*той ліст і плод невялікі,*
*лаўровы чорненькі бабок*
*кідалі сабе ў гаршчок.*
*І цяпер нам смакуе бабок!*
*І лякуе лаўровы лісток.*
*На лістку ў пасцелі засні:*
*прынясе табе добрыя сны.*
*Або Дафна забяжыць у твой сон,*
*калі гнаўся за ёй Апалон,*
*што ў лаўровае*
*змянілася дрэва.*
*Закалыша твой сон*
*сваім спевам...*

# УВАГА КОНКУРС! № 21-16

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 29 мая 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Ледзь вясна са двара —**
**Едзе, абагнаўшы май,**
**Там светлая пара.**
**А якая — адгадай!**
**Л...**

**(У. Мацвеенка)**

**Адказ на загадкі № 17-16: зубр.**

**Узнагароды, наклейкі з разнавіднымі матывамі, выйгралі: Куба Галёнка з НШ свсв.Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Карнэлія Барэчка з Нараўкі, Наталля Рукша з Бабік, Наталля Ніканюк з Арэшкава. Віншуем!**

# Бывай, Марцін!

Марцін любіў іграць у футбол. Хацеў стаць лекарам дзіцячых хвароб. Вучыўся добра і памагаў іншым.

Аднойчы на ўроку гісторыі ён самлеў. У школу паклікалі бацькоў і вызвалі скорую дапамогу. У бальніцы быў пастаўлены страшны дыягназ: лейкемія.

Усе былі ў шоку. Шкадавалі мы сябра і жадалі, каб паправіўся.

Марціна лячылі ў Беластоку. Бацькі і дзяды штодзённа ездзілі да яго. Мы ў школе зладзілі кірмаш, каб фінансава дапамачы бацькам сябра. Прадавалі каляровыя паштоўкі, якія зрабілі самі. Куплялі гэтыя паштоўкі вучні і настаўнікі. Сабралі мы больш за дзве тысячы злотых і ўсе грошы аддалі бацькам Марціна. Яны вельмі ўцешыліся і са слязамі ў вачах нам дзякавалі.

Аднойчы Марцін прыехаў на пропуск. Мы пайшлі яго наведаць. Зноў усе былі ў шоку. Гэта не быў той самы Марцін, якога мы памяталі. Гэта быў цяжка хворы хлопец. Ён быў бледны, без валос і вельмі сумны.

Мы расказвалі Марціну, што адбываецца ў школе. А ён расказваў, колькі хворых дзяцей у бальніцы, і колькі з іх ужо памерла. Пасля трох гадзін мы развіталіся з сябрам. Было нам вельмі сумна, што не зможам яму памагчы.

Больш мы ўжо не ўбачылі Марціна. Памёр у бальніцы праз месяц.

На пахаванні калегі мы ўсе плакалі.

Бывай, Марцін! Ніколі цябе не забудзем!

Дыяна ЮРЧУК
ПШ № 6 у Гайнаўцы

За момант гімназісткі пойдуць танцаваць

Шасцікласнікі пасля бравурнага выступлення

Патрыцыя САКАЛОЎСКАЯ
ПШ у Міхалове

## Зубы

Мы мыем зубкі,
каб яны былі здаровыя,
Здаровыя будуць,
выглядаць як новыя.
Не будзеш іх губляць,
Калі будзеш аб іх дбаць!

Магдаліна ЛЯСОТА
ПШ у Нараўцы

## Каляровыя алоўкі

Вазьму ў рукі
каляровыя алоўкі
І цудоўны свет нарысую,
Дзе не будзе няшчасцяў,
хвароб,
Усе будуць шчаслівыя
і вясёлыя.
Такі свет я хачу каб быў,
Але без каляровых
алоўкаў.

Наталля ПАЎЛОЎСКАЯ
ПШ імя Кірылы
і Мяфодзія ў Беластоку

## Кашыдла

Кашыдла дурная
Высокая як вежа
Тоўстая як слон
Брыдкая як ноч
Ніхто яе не любіць
Яна заўсёды вясёлая

## Вершы Віктара Шведа

### Кітайскі бамбук

Калі пры дапамозе рук
Кітайскі садзіцца бамбук,
Праз пяць гадоў ён ля сяліб
Расце не ўверх, ды толькі ўглыб.

Хацелася б каб прыйшоў час
Каб бамбук той рос і ў нас.
Каб праз жыцця людскога дні
Нашы ўзмацняў тут карані.

### Размова з лекарам

Абследаваў хворага лекар
І прыпісаў яму лекі.
Запытаўся няйначай:
— Ці маеш сядзячую працу?

— Назваць яе можна розна,—
Сказаў пацыент асцярожна.—
У працы — мая надзея,
Працую я жакеям.

# Польска-беларуская крыжаванка № 21-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 17:**

Краса, дырыжор, хор, нага, эра, ткач, рэ, рынак, палатка. Канцэрт, слых, рот, цырк, ара, пончык, мара, на, цыганка.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Юстына Бакуменка**, **Шыман Івановіч** з НШ свсв. КіМ у Беластоку, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Бэата Цілюлька** з Бабік, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Магдалена Стоцкая**, **Корнэлія Барэчка** з Нараўкі, **Ігар Кардаш**, **Міхал Тапалянскі**, **Тымэк Петручук** з Нарвы. Віншуем!

Baran
Wędka
Powaga
Szansa
Dzień
Las
Smak
Wapno
Futro
Dzik
Tir
Jadło
Dół
Dla
Wiek
Wdowiec
Dwa
Tonaż
Re
Gorzki dym
Lekarz
Jak
Auta

# XXXV Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі

На вышэйшы, чым у папярэдніх гадах узровень выступаючых хароў, іх разнароднасць, а таксама на вялікую колькасць дзетак, моладзі і акадэмічных хароў на юбілейным XXXV Міжнародным фестывалі «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» звярнуў увагу яго дырэктар мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, настаяцель Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы. Падчас інаўгурацыі гайнаўскага фестывалю займальна выступіў лаўрэат Гран-пры 2014 года — хор Маскоўскай дзяржаўнай музычнай кансерваторыі імя Пятра Чайкоўскага. Высокі ўзровень царкоўнага спеву запрэзентавалі таксама многія канкурсанты сёлетняга фестывалю, які з 9 па 14 мая з благаславенства мітрапаліта Савы і пад ганаровым патранатам прэзідэнта РП Анджэя Дуды праходзіў у Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы і завяршыўся гала-канцэртам з удзелам фестывальных пераможцаў. Другі гала-канцэрт адбыўся ў Агія-Сафійскай царкве ў Беластоку.



Акадэмічны хор студэнтаў Харкаўскай дзяржаўнай акадэміі культуры атрымаў Гран-пры



Маладзёжны хор «Віссон» з Мінска (Беларусь)

— Распачынаючы фестываль, мы інаўгуруем містычную літургію, бо царкоўны спеў — гэта самая цудоўная форма духовай радасці, якую чалавек можа выявіць. Злучае ён чалавека з яго Творцам — Богам... Я радуюся, што ў нас такая вялікая зацікаўленасць фестывалем. А так шматлікую прысутнасць на інаўгурацыі і конкурсных слуханнях успрымаю як вялікую прагу чэрпаць з крыніцы Божага дару, якім з'яўляецца ўсхваленне Творцы праз пасрэдніцтва царкоўнага спеву, — сказаў мітрапаліт Сава падчас інаўгурацыі фестывалю.

Ксёндз Раман Паўляс з Евангеліцка-Аўгсбурскага касцёла ўручыў мітрапаліту Саве Ордэн «Ecce Homo» за ахвяраванне свайго жыцця Богу, людзям і за сведчанне веры. Падчас фестывалю былі таксама ўручаны ўзнагароды імя князя Канстанціна Астрожскага.

— Гайнаўскі фестываль царкоўнай музыкі — адно з самых важных культурных здарэнняў у нашым рэгіёне, — сказа падчас гала-канцэрта дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ў Беластоку Анатоль Вап, які разам з дырэктар дэпартамента развіцця сельскіх абшараў Альжбетай Філіповіч уручыць памятныя граверторы арганізатарам Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» — яго дырэктару айцу Міхаілу Негярэвічу і старшыні Аб'яднання «Любіцелі царкоўнай музыкі», былому гайнаўскаму бургамістру Анатолю Ахрыцюку.

— Гайнаўскі фестываль урос у традыцыю і гісторыю горада, становячыся своеасаблівым святам, месцам сустрэчы розных культур і традыцый, абмену вопытам, завязвання сяброўства і супрацоўніцтва, — заявіў дырэктар фестывалю мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч.

Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак звярнуў увагу на патранаты прэзідэнтаў РП Аляксандра Кваснеўскага, Браніслава Камароўскага і Анджэя Дуды, пад якімі праходзілі гайнаўскія фестывалі. Падчас інаўгурацыйнага канцэрта і гала-канцэрта ў гайнаўскім саборы прысутнічалі шматлікія госці, у тым ліку праваслаўны ардынарый Войска Польскага епіскап сямятыцкі Георгій з праваслаўным духавенствам, ардынарый Драгічынскай епархіі Рымска-каталіцкага касцёла епіскап Тадэвуш Пікус з каталіцкім духавенствам, падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі, віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства Мацей Жыўна, пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў з дыпламатамі, былы прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч і некаторыя парламентарыі, шматлікія самаўрадаўцы. У час гайнаўскага фестывалю, які арганізуюць Грамадскі арганізацыйны камітэт, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі», Гайнаўскі дом культуры, Свята-Троіцкі прыход у Гайнаўцы і гайнаўскае аддзяленне Брацтва праваслаўнай моладзі, выступіла 30 хароў, у якіх спявала каля 700 харыстаў з Польшчы, Беларусі, Украіны, Расіі, Румыніі, Латвіі і Грузіі. З Беларусі прыехала 6 хароў. Суправаджальныя мерапрыемствы адбыліся ў Варшаве, Элку і многіх мясцовасцях Беласточчыны, падчас якіх публіцы прэзентавалася царкоўная і народная музыка ў выкананні ўдзельнікаў фестывалю. Вялікім і цікавым фестывальным мерапрыемствам быў пленэрны канцэрт свецкай музыкі «Фальклорная бяседа», падчас якога ў Асяродку лясной адукацыі «Ягелонскае» каля Белавежы выступілі хары з розных краін.

У гэтым годзе падчас конкурсных слуханняў у катэгорыі акадэмічных хароў многа выканаўцаў запрэзентавалася на высокім узроўні. Удала выступіў хор «Поліфанія» Політэхнічнага інстытута ў Беластоку, якім кіруе Кацярына Жамчужнікава.

— Музычную вышэйшую адукацыю я атрымала ў Мінску, дзе пражывала з бацькамі. Пераехаўшы на вучобу ў Беласток, была дырыжорам прыхадскога хору ў Агія-Сафійскай царкве ў Беластоку, а пасля запрапанавалі мне быць дырыжорам хору «Поліфанія», з якім зараз працую. У студзені гэтага года пры хоры «Поліфанія» я арганізавала дзіцяча-маладзёжны хор, які сёння таксама выступае, — сказала Кацярына Жамчужнікава.

Займальна запрэзентаваліся падчас фестывалю акадэмічны хор студэнтаў Харкаўскай дзяржаўнай акадэміі культуры (Украіна), які здабыў Гран-пры; камерны хор Дзяржаўнай філармоніі ў Астрахані (Расія), які заняў першае месца; камерны хор «Благавест» з Рыгі (Латвія), якому камісія таксама прызначыла першае месца.

— Мы вельмі рады, што атрымалі Гран-пры фестывалю. Прыехалі мы з новымі творамі духоўнай музыкі, якія спецыяльна падабралі для гэтага фестывалю, — сказаў Вячаслаў Бойка, дырыжор Акадэмічнага хору студэнтаў Харкаўскай дзяржаўнай акадэміі культуры.

Другога месца камісія не прысудзіла, а трэція раўнапраўныя месцы ў гэтай катэгорыі занялі акадэмічны хор «Юність» з мясцовасці Сумы (Украіна) і маладзёжны хор «Віссон» з Мінска (Беларусь), якія зацікавілі публіку рэпертуарам і запрэзентаваліся на высокім узроўні.

— Некалькі гадоў назад наш хор заняў другое месца падчас фестывалю «Магутны Божа» ў Магілёве і трэцяе месца на фестывалі «Каложскі Благавест» у Гродне. У нашым рэпертуары многа царкоўнай музыкі, якую выконваем побач беларускай народнай музыкі і іншых твораў, — заявіла дырыжор хору «Віссон» з Мінска Алёна Высоцкая.

У катэгорыі іншых хароў першае месца заняў вакальны калектыў «Пакроў» з Кіева (Украіна), а другое месца — квінтэт «Доўгі вечар» з Гайнаўкі, які паўстаў на аснове харыстаў маладзёжнага хору Свята-Троіцкага прыхода ў Гайнаўцы.

— Інспірацыяй для заснавання нашага квінтэта быў менавіта фестываль, бо мы ўсе — любіцелі царкоўнай музыкі. Аднак ахвотна выконваем таксама славянскія народныя песні, — сказаў дырыжор квінтэта «Доўгі вечар» Каміль Васілюк.

На трэцім месцы апынуўся хор духавенства Беластоцка-Гданьскай епархіі, які быў высока ацэнены таксама публікай. Цікава і нестандартна запрэзентаваўся хор «Фэрхіса» з Тбілісі (Грузія), які выконвае грузінскую народную і царкоўную музыку і атрымаў спецыяльную ўзнагароду ў катэгорыі іншых хароў. У катэгорыі дзіцяча-маладзёжных хароў першага месца камісія не прысудзіла, а другое месца заняў хор «Cantus» з Масквы (Расія), у якім цікава выступілі хлопцы ў школьным узросце. Раўнапраўныя трэція месцы камісія прызначыла дзіцяча-маладзёжнаму хору «Благавест» нядзельнай школы Сабора св. Сімяона Слупніка ў Брэсце (Беларусь) і рэпрэзентацыйнаму хору «Купалінка» Дзіцячай школы мастацтва ў Кобрыне (Беларусь).

— Мы на фестывалі выступаем першы раз. У нас спяваюць вучні і настаўнікі нашай школы, а ў нашым рэпертуары перш за ўсё свецкія творы, — гаварыла Ала Прыймачук, дырыжор хору «Купалінка».

Сярод гарадскіх прыхадскіх хароў, якія малітоўна запрэзентаваліся ў Гайнаўцы, першае месца заняў хор «Aletheia» Петра-Паўлаўскага прыхода ў Ясах (Румынія), а другое месца заняў хор Пакроўскай кафедры ў Гродне (Беларусь). Камісія прысудзіла таксама тры трэція месцы, якія занялі кафедральны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, хор Уваскрэсенскага сабора ў Брэсце (Беларусь) і хор Георгіеўскага прыхода ў Беластоку, а вылучэнне атрымаў, між іншым, хор Прыхода Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы.

— Дзякуючы шматлікім рэпетыцыям, якія штогод адбываюцца перад фестывалем, мы павышаем узровень спеву, а падчас конкурснага выступу здабываем дадатковы вопыт. Спяванне падчас фестывалю гэта для нас перш за ўсё малітва, — заявіла маладая харыстка з гайнаўскага сабора.

Цікава спяваў хор Прачысценскага прыхода ў Бельску-Падляшскім, дырыжорам якога з'яўляецца Марта Зінкевіч. У канцы выступу разам з хорам спяваў беларускі калектыў «Ручнічок» з бельскай «тройкі», які вядзе Іаанна Хількевіч. Удала запрэзентавалі царкоўную музыку таксама хары праваслаўных вясковых прыходаў. У катэгорыі вясковых хароў камісія не прысудзіла першага месца, а другое месца занялі хары «Аксіос» з вёскі Сынковічы ў Беларусі і «Гармонь» з прыхода ў Ласінцы. Трэція месцы занялі прыхадскія хары з Новага Беразова і Орлі, а вылучэнне атрымаў хор са Шчытоў.

— Мы ставім перш за ўсё на малітву і спяваем паводле сваіх магчымасцей. Праводзячы рэпетыцыі і рыхтуючыся да выступаў, мы павышаем узровень царкоўнага спеву, пра што павінны таксама дбаць падчас багаслужбаў, — гаварыў дырыжор арлянскага хору Дзмітры Мартыновіч.

— Я рады сённяшняму выступу. У апошнім годзе ў нашым хоры, якім кіруе Валянціна Радчук, сталі спяваць 5 новых асоб, але ён абапіраецца на харыстах, якія здаўна спяваюць на нашых багаслужбах, — сказаў протаіерэй Іаан Казімірук, настаяцель Увазнясенскага прыхода ў Новым Беразове.

Хор «Гармонь» з Ласінкі, які ўдала выступае таксама на свецкіх мерапрыемствах і ў якім спяваюць перш за ўсё маладыя асобы, запрэзентаваўся дастойна. Частка харыстаў жыве ў Гайнаўцы і таму падчас багаслужбаў у царкве спяваюць таксама старэйшыя асобы. Дырыжор Марыя Пашко ўмее падрыхтаваць да спеву падчас багаслужбаў, да выступаў на фестывалі царкоўнай музыкі і ў час свецкіх мерапрыемстваў.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Блізкі Усход яшчэ бліжэйшы



**Фонд імя князя Канстанціна Астрожскага і Універсітэт праваслаўнай культуры зладзілі 10 мая ў Беластоку сустрэчу з ліванскім вучоным Сухейлем Фарахам на тэму будучыні хрысціянства на Блізкім Усходзе. Сухейль Фарах з'яўляецца прафесарам, м.інш., Маскоўскага ўніверсітэта і акадэмікам Расійскай акадэміі навук, ён аўтар шматлікіх кніг; займаецца праблемамі дыялогу культур і цывілізацый.**

Блізкі Усход блізкі нам не толькі па найменню, не толькі ў маштабах сённяшніх камунікацый — ён блізкі нам таму, што там зарадзіліся асновы нашай цывілізацыі. А зараз той рэгіён трывожыць свет тэмпамі чарговай цывілізацыйнай дынамікі. Тая шматвектарная дынаміка нясе ў сабе пагрозу больш застыламу наваколлю, асабліва ж Еўропе. Суфейль Фарах свой даклад прысвяціў канфесійным зменам у блізкаўсходніх краінах.

Да прыходу мусульманства насельніцтва на тэрыторыі Сірыі, Ірака, Лівана ці Палесціны было поўнасцю хрысціянскае, але з ходам часу гэтая канфесія паступова саступала новай, мусульманскай, рэлігійнай плыні. Што было прычынай такіх змен? Несумненна, галоўнай трэба лічыць напорыстасць носьбітаў новай рэлігіі, асабліва ж яе тэакратычных дзяржаў — халіфатаў. Але, як адзначыў дакладчык, не без віны і самі хрысціяне, якія сталі па-варожаму расколвацца на розныя плыні. Гэта не толькі г.зв. вялікая схізма ці ранейшыя багаслоўскія спрэчкі, але, для прыкладу, і жорсткасць удзельнікаў славутых сярэднявечных крыжовых паходаў, у выніку якой тамашнія хрысціяне сталі ўцякаць ад хрысціянства ў, менавіта, іслам. І хіба, як мне здаецца, на межавых тэрыторыях выступае нейкая цывілізацыйная накіраванасць, якая выклікае паступовую дыфузію грамадства з адной супольнасці ў іншую; прыкладаў гэтага не трэба далёка шукаць — хопіць разглянуцца па Тутэйшым Усходзе...

Не толькі неафіцтва спарадзіла змену канфесійнага краявіду Блізкага Усходу. Вялікую ролю ў гэтай змене сыгралі міграцыйныя працэсы, у якія ў апошні час уключыліся асабліва хрысціяне, выязджаючы адтуль у розныя напрамкі: у Паўночную і Лацінскую Амерыку, Еўропу і Аўстралію. Масавая эміграцыя хрысціян з Блізкага Усходу пачалася два стагоддзі назад. Гэта былі лепш адукаваныя людзі, якія нядрэнна ўладзіліся ў новых краінах. Шмат сямейнікаў і Сухейля Фараха выехала ў названых напрамках, у Бразілію, Мексіку, Аўстралію, Швейцарыю, прабіваючыся там у верхнія слаі грамадства; у самога ж Сухейля Фараха расійскае грамадзянства. Іншыя выхадцы з Лівана дайшлі да дзяржаўных вяршынь, у розны час займаючы прэзідэнцкія пасады ў Дамінікане, Калумбіі, Эквадоры. А самым свежым прыкладам з'яўляецца сын мараніцкіх хрысціянскіх ліванскіх выхадцаў Мішэль Тэмэр, які на днях заняў пасаду прэзідэнта найбуйнейшай лацінаамерыканскай дзяржавы, Бразіліі, у выніку імпічменту дэмакратычна абранай на гэты пост Дыльмы Русавай, дачкі балгарскага выхадца... Пакідалі Блізкі Усход адукаваныя людзі, пакідаючы за сабою мала адукаваную моладзь, маргінальныя слаі грамадства, якія не змаглі падмяніць у культурнай і эканамічнай сферы выехаўшых. Гэта, у сваю чаргу, спарадзіла шмат эканамічных і сацыяльных праблем, ствараючы спрыяльны грунт дэмагогіі і фундаменталізму.

Хрысціяне пакідаюць Блізкі Усход і як эканамічныя эмігранты, і як бежанцы. Эканамічная эміграцыя выступае не толькі на Блізкім Усходзе, яна і з Тутэйшага Усходу высмоктвае найбольш перспектыўных людзей, таксама пакідаючы прыхільнікаў „простых" рашэнняў. Найбольш трывожнае бежанства ад насілля, выклікананга рэлігійным фанатызмам прыхільнікаў г.зв. Ісламскай дзяржавы Ірака і Леванта (ІДІЛ). Асабліва таму, што гэтыя падзеі адбываюцца ў месцы вытокаў хрысціянства...

Адзінай краінай, дзе хрысціянства захавала значную пазіцыю, з'яўляецца Ліван, дзе да пачатку 1970-х гадоў хрысціяне састаўлялі большасць насельніцтва. Цяперашнія статыстыкі паказваюць, што ў Ліване хрысціян 42 адсоткі, апошнюю ж долю насельніцтва гэтай краіны састаўляюць мусульмане. Канфесійны воблік Лівана мяняецца, як ацаніў дакладчык, не ў лепшы бок. Агульная колькасць хрысціян на Блізкім Усходзе сягае каля дванаццаці мільёнаў чалавек, якія галоўным чынам насяляюць Егіпет і Ліван. У Сірыі іх каля дзевяцісот тысяч чалавек, у Іраку паводле прыблізных дадзеных пражывае каля трохсот пяцідзесяці тысяч хрысціян, хаця паводле некаторых меркаванняў асталося іх там каля ста пяцідзесяці тысяч; сам Сухейль Фарах прытрымліваецца першых лікаў, мяркуючы, што ў Іраку хрысціяне мігравалі ў межах краіны, выбіраючы там больш спакойныя месцы жыхарства... У Іардaніі каля ста пяцідзесяці тысяч, на тэрыторыі Палесцінскай Аўтаноміі каля пяцідзесяці тысяч, у Ізраілі каля ста дваццаці тысяч. У агульнасці зараз хрысціяне састаўляюць каля трох-чатырох адсоткаў насельніцтва ўсяго арабскага свету. Яны розныя для розных краін: у Ліване гэта 42%, у Сірыі 8-9%, у Егіпце 6-7%. У Сірыі ў пачатку ХХ стагоддзя хрысціяне складалі каля трэці насельніцтва. Найбольш трагічнай аказалася сітуацыя палесцінскіх хрысціян, якія сталі ахвярамі заходніх і сіяніцкіх планаў. Да моманту масавай іміграцыі яўрэяў у Ізраіль хрысціяне складалі каля дваццаці адсоткаў насельніцтва гістарычнай Палесціны.

Цяпер адным з асноўных фактараў бежанства хрысціян з Блізкага Усходу з'яўляецца ІДІЛ, які варварскімі сродкамі хоча там заснаваць ісламскі халіфат. Бо „звычайная" эміграцыя гэта пошукі выгаднейшага жыцця; гэта і выезд на працу, гэта і навучанне на Захадзе, калі выпускнікі навучальных установ не хочуць вяртацца. ІДІЛ жа нясе пагрозу ўсім тым, якія не раздзяляюць яго догмаў. Прыкладам, пры Садаме Хусейне, які быў па сутнасці свецкім дыктатарам, у Іраку пражывала каля двух мільёнаў хрысціян, калі зараз іх там па крайняй меры не больш 350 тысяч. У Іране астаецца іх каля 150 тысяч, у Турцыі — каля пяцідзесяці тысяч...

У маім атэістычным даведніку, выдадзеным Масквой у 1971 годзе, прыводзяцца такія лікі: Турцыя — менш 1% хрысціян, Сірыя — 14%, Ліван — 52%, Ірак — 3%. Сучасныя статыстыкі, хаця яны ўсе надта прыблізныя, паказваюць катастрафічнае скарачэнне ліку хрысціянскіх вернікаў на Блізкім Усходзе. У правячых кругах арабскіх дзяржаў гэта выклікае нават ціхае задавальненне. Хаця хрысціяне іграюць там істотную ролю ў эканоміцы. Саўдаўская Аравія прызначае агромныя фінансавыя сродкі дзеля стварэння, не толькі на Блізкім Усходзе, але і ва ўсім свеце, г.зв. ісламскіх цэнтраў, якія ў прынцыпе прапаведуюць вахабізм, самую фанатычную плынь ісламу. Менавіта з гэтага кансерватызму, з гэтага фанатызму і вырасла ІДІЛ. Вялікай праблемай мусульманскага свету з'яўляецца тое, што ён не хоча шукаць агульнай мовы з сучасным светам. Для іх правадыроў узорам астаецца не будучыня, толькі мінулае, яны аглядаюцца галоўным чынам назад, дзе яны знаходзяць дзяржаўны эталон. Гэтыя погляды раздзяляюць шырокія масы насельніцтва. Хрысціянскі свет здаецца заўважаць патрэбу адзінства, патрэбу даць адпор варварству. У гэтым ракурсе дакладчык пахваліў расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна, які выйшаў з ініцыятывай адбудаваць усе знішчаныя там экстрэмістамі праваслаўныя цэрквы. Шмат аптымізму ўносіць і нядаўняя сустрэча папы Францішка і патрыярха Кірыла. Аднак хрысціянскія сцэнарыі на будучыню на Блізкім Усходзе ў прынцыпе песімістычныя.

Мусульманскія сем'і бяднейшыя, у іх нараджаецца многа дзяцей і ў іх няма ўмоў для нармальнага жыцца, кватаравання, харчавання, навучання — для ўсяго культурнага працэсу. Яны жывуць у пэўным сэнсе прымітыўна і насаджаюць прымітыўныя культурныя ўзоры, у тым ліку яны нават не ведаюць самой сутнасці ісламу і трымаюцца галоўным чынам тых яго палажэнняў, якія спараджаюць узаемную нянавісць — не ў напрамку міру і дыялогу, а наадварот. Адной з асноўных прычын канфлікту на Блізкім Усходзе з'яўляецца дэмаграфічны ўзрыў, напрыклад у Егіпце цягам кожнага года прыбывае адзін мільён насельніцтва, а асвета і ахова здароўя слабыя — з гэтага нараджаецца грамадскі фермент і фанатызм. І гэтых бедных людзей лёгка прыцягнуць у фанатычныя групоўкі.

Ёсць і другі бок справы. Асноўнымі вучонымі, якія на Захадзе займаюцца вывучэннем мусульманскіх грамадстваў з'яўляюцца тамашнія ўсходазнаўцы. Аднак ім чужы блізкаўсходні менталітэт, блізкаўсходні лад жыцця. Калі б яны яго ведалі, тады магчыма, што інакш разгортваліся б палітычна-мілітарныя падзеі на Блізкім Усходзе...

Згадалася мне ў пачатку, што вытокі нашай цывілізацыі на Блізкім Усходзе. І адтуль, разам з Бібліяй, прывандравалі да нас расказы і пра Вавілонскую вежу, і пра райскае дрэва пазнання дабра і зла. Можна тыя сюжэты разглядаць літаральна, а можна і алегарычна. Бо ж тое будаванне легендарнай вежы дзеля цікавасці, дзеля таго, каб заглянуць у Неба, гэта ж тое самае, што і прабаванне пладоў дрэва пазнання дабра і зла. Будаўнікам вежы Бог паблытаў мовы, але людзі ўпарта лезуць на касмічныя граблі. Людзі пабудавалі ўжо іншыя іпастасі Вавілонскіх вежаў, з якіх заглядаюць у тайны сусвету. Гэта, для прыкладу, атамная фізіка ці хімія, якія дазваляюць таксама атрымаць неблагія катастрофы, калі імі карыстацца адпаведным чынам. Не інакш і з багаслоўем — тут таксама народ горнецца на сваю версію Вавілонскай вежы і таму народу крышку блытаецца ў галаве. Акурат так, як, прыкладна, на Блізкім Усходзе. А, больш агульна кажучы — не толькі там.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Гадавіна заканчэння вайны ў Седльцах

У гадавіну заканчэння Другой сусветнай вайны на могільніку салдат Чырвонай Арміі ў Седльцах былі ўскладзены кветкі і запалены лампадкі. Спачывае тут 25 тысяч савецкіх ваенных розных нацыянальнасцей, у тым ліку беларусы, якія загінулі ў 1941-1944 гадах. Іх сем'і часта прыязджаюць наведаць магілы, асабліва ў маі. Сярод асоб, якія ўскладалі кветкі ў гадавіну заканчэння вайны, была таксама сям'я Альшэўскіх з Ліды на Беларусі. На сядлецкім могільніку пахаваны, між іншым, Мікіта Яўтухавіч Кузло. Яго ўнук Сяргей Аляксандравіч Альшэўскі сказаў «Ніве», што ад 10 гадоў, калі Польскі чырвоны крыж указаў месца пахавання ягонага дзеда, стараецца прыязджаць у Седльцы нават два разы ў год. Для яго прыезд гэта не толькі выраз памяці аб загінуўшым продку, але і даніна павагі тым, хто аддаў сваё жыццё ў барацьбе з фашыстамі. Праз сваю ахвяру яны далі шанц на мірнае жыццё новым пакаленням. Як заявіў, яго вельмі хвалююць спробы абвергнуць гісторыю і падараваць значэнне вызвалення славянскіх народаў ад фашысцкай акупацыі. У той жа час, аднак, падкрэсліў, што ў Седльцах ён сустракаецца з вялікай дабрынёй, а салдацкі могільнік, дзе пахаваны яго дзед, знаходзіцца ў добрым стане, відаць клопат гарадскіх улад аб утрыманні яго ў поўным парадку. «Гэта радуе і спрыяе дружбе паміж нашымі народамі», — сказаў Альшэўскі. Ён таксама заявіў, што хутка прывязе сюды ўнука, каб перадаць яму памяць аб гісторыі супольнай барацьбы беларусаў, палякаў, рускіх, украінцаў і іншых народаў за вызваленне ад нямецкай акупацыі і аб высокай цане, якую яны заплацілі за свабоду.



Сям'я Альшэўскіх з Ліды пры магіле дзеда

Выступаючы на цырымоніі Віталь Сухарукаў, так як і Альшэўскі, падкрэсліў, што «ў той сонечны майскі дзень мы зноў сабраліся на месцы пахавання салдат савецкай арміі, каб аддаць належнае тым, хто загінуў у жорсткіх баях з фашысцкай Нямеччынай. Загінуўшыя салдаты аддалі сваё жыццё за гэта, каб сёння мы маглі радавацца мірам, спакойнай працай, размаўляць на родных мовах, жыць на нашай вольнай зямлі, прасякнутай іх крывёю. У нас у кожнай сям'і ёсць бацька, дзед або сваяк, які аддаў сваё жыццё на полі бою, або атрымаў раненні. Памяць пра ахвяры крывавай вайны застанецца ў нашым сэрцы назаўжды». Дактарант Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта Аляксей Пулік сказаў «Ніве» наступнае: «Для нас, маладога пакалення, памяць аб балючай гісторыі вайны з'яўляецца адначасова выклікам, як зрабіць, каб такія трагічныя падзеі не паўтарыліся, каб адкрыліся новыя перспектывы для будучыні міру ў свеце».

У цяперашні час святкаванне заканчэння Другой сусветнай вайны мела зусім іншы характар, чым раней. Не ўдзельнічаюць у ім прадстаўнікі ўлад, прыходзіць нашмат менш людзей, напрыклад у Седльцах, па сутнасці былі толькі беларусы, рускія і ўкраінцы. У публічным дыскурсе ўсё больш дамінуюць крытычныя і палемічныя ацэнкі самога заканчэння вайны, як і яго наступстваў. Усё менш і менш сведак ваенных падзей, а менавіта гістарычная памяць фармуе канструкцыю будучага.

**Тэкст і фота Адама БОБРЫКА**




Гэта сапраўдная ікона незалежнасці — на працягу дзесяці гадоў свайго існавання музыкі самі клапаціліся пра выданне пласцінак, іх распаўсюд, арганізаванне канцэртаў. Ніколі не выступалі (нягледзячы на прапановы) на мерапрыемствах, у якія ўцягнуты былі карпаратыўныя грошы. „Mister X” грае вулічны стрыт-панк. Яны шчырыя ў тым, што робяць і як граюць.

**— Чаму не можна Вас пачуць на рознага тыпу музычных фестывалях? У тым ліку тыпова беларускіх фестывалях?**

**Лідар гурту „Mister X” Ігар Банцар:**

— Змест нашых песень занадта радыкальны ў тым сэнсе, што... радыкальны для радыкалаў. Я лічу адназначна. Мы заўжды тое казалі: мы толькі з такімі гуртамі, з такой пазіцыі выступаем, толькі з тымі, хто хоча казаць пра адзінства. Прычым мы не кажам пра адзінства з людзьмі, у якіх трохі непарадак у галаве. Мы кажам пра людзей, якія хочуць аб'яднацца, хаця нас зараз падзяляюць граніцы, палітыкі, нейкія дзіўныя ідэалогіі, рэчы, якія даўней былі немагчымымі — ніхто пра гэта не думаў.

**— Як выглядае цяперашні антыфашысцкі рух у Беларусі? Пад уладай Лукашэнкі кожны пікет ці дэманстрацыя канчаецца ўмяшаннем міліцыі, а затым судамі, штрафамі.**

— Антыфашызм на Усходзе і канкрэтна ў Беларусі зараз у такой фазе, што ў прынцыпе ўсе актыўныя дзеянні даўно скончыліся. Рабіць вельмі цяжка. Сучасныя тэхналогіі: тэлефоны, інтэрнэт, камеры, тайныя службы — КДБ у нашым выпадку. Таму цяпер на жаль, гэта вельмі віртуальна.

**— Але ў той жа Гародні, дзе ў 1990-х гадах быў развіты рух антыфашыстаў і анархістаў, маеце напэўна сваіх фанатаў, аднадумцаў.**

— Дваццаць першае стагоддзе пазбаўляецца ад старых ідэалогій. Цяпер некаторыя пачынаюць мяшаць нацыяналізм, анархізм... і атрымліваюцца потым з гэтага такія жудасныя мікстуры. Прыкладам таго з'яўляюцца іспанскія ці французскія антыфашысты — нібыта антыфашысты, якія кажуць: едзем на Данбас змагацца з украінскімі бандэраўцамі. І людзі сабе нармальна гэтае тлумачаць, хаця яны змагаюцца ў адных батальёнах з рускімі фашыстамі.

Тое ж самае існуе цяпер у нас, на Беларусі. З'явілася шмат моладзі, якая не хоча паглыбляцца ў гісторыю, вельмі павярхоўна да гэтага падыходзіць. І потым кажуць пра тое, што мы трохі за анархію, трохі за нацыяналізм, трохі за экалогію, трохі супраць Лукашэнкі, трохі супраць левакоў, геяў... гэта проста такая мікстура і пра гэта наша песня нашмат каму не даспадобы.

**— Але не думаеш, што ў постсавецкіх краінах, якія нядаўна здабылі незалежнасць, існуе пытанне тоеснасці. На Беларусі гэта больш складана — выпушчаныя з клеткі інтэрнацыяналізму трапілі ў другую. На Тваю думку такі здаровы нацыяналізм, скажам змаганне за нацыянальную самабытнасць краіны, яе дэмакратызацыю, адстойванне правоў за свабоду выказванняў і думак, патрэбнае ў кожнай краіне?**

— Стварэнне нацыятворчага міфа актуальнае для кожнага народа. Праблема беларускай дзяржаўнасці ў тым, што хтосьці лічыць яе з БНР, хтосьці з ВКЛ, іншыя з 1945 года, а яшчэ іншыя з 1990 года, калі разваліўся Савецкі Саюз. Я скажу па-чырасці, калі мне было дваццаць, я лічыў, што ліцвіны, Вялікая Літва гэта нешта мае. Але я пражыў 10-20 гадоў, вырасла новае пакаленне і тут варта падкрэсліць, што яны нарадзіліся ўжо ў тыя гады, калі Лукашэнка стаў прэзідэнтам. Яны не бачылі іншага жыцця, не бачылі альтэрнатыўных крыніц інфармацыі. У іх выпрацаваны некрытычны падыход. Інфармацыю трэба вышукаць, параўнаць і тады рабіць нейкія высновы, а не тупа жэрці тое, што табе накідвае нейкая прапаганда, ідэалогія. Маладыя людзі зараз хочуць падзяляць, шукаючы нейкіх „гераічных” прыкладаў. Мы гаворым „не” такім асобам, якія так хочуць будаваць пачуццё еднасці, падзяляючы адначасова людзей. Еднасць не будуецца на падзеле, еднасць будуецца шукаючы агульных шляхоў да паразумення, агульных пытанняў, якія можна вырашыць кансэнсуальна. Калі кажам, з пункту гледжання нашых субкультурных падыходаў, вельмі крыўдна, што людзі не хочуць развівацца, шукаць нейкіх больш цяжкіх шляхоў да праўды, да паразумення, а проста бяруць лёгкія прапагандысцкія лозунгі, якія ім падсоўваюць некаторыя музычныя калектывы.

**— Разумею, што „Mister X” спалучае ідэю з музыкай. Хочаце вырабіць у слухача здольнасць разумення не толькі вонкавай формы, але таксама адкрыцця таго, што хаваецца за гукам?**

— Нягледзячы на тое, што мы спяваем пра розныя рэчы і часам гэта выглядае не так, каб мы былі пацыфістамі, але сітуацыя часам патрабуе рашэнняў больш ці менш жорсткіх. Асноўнае пытанне зводзіцца да таго, ці нам залежыць на гэтым, каб пашыраць прастору свабоды, ці наадварот, яе звужаць. Калі выходзіць шырэй — усе, пачынаючы з акцёраў перформераў, з нейкіх мастакоў, з гэтых асоб, якія ёсць у кантры, якія не ў трэндзе, не падлягаюць прапагандзе, якія хочуць паказаць, што ёсць альтэрнатыўная думка. Усё важна. Мы таксама дакладаем свае „пяць капеек”, хаця вядома ізноў, што гэта на глыбокім субкультурным узроўні і просты шараговы жыхар, якому дадзь паслухаць нашу музыку, ён проста не зразумее пра што, як і чаму мы спяваем. Таму трэба быць трохі падрыхтаваным, паглыбленым у гэтай культуры.

**Гутарыла Уршуля ШУБЗДА**




Наведванні музеяў у беларускай правінцыі пакідаюць дваістае ўражанне. З аднаго боку прыемна, што людзі нават на перыферыі захоўваюць гісторыка-культурную спадчыну, але з другога — робяць часцяком гэта настолькі спусціўшы рукавы, што такое захаванне выклікае толькі горкую ўсмешку.

Адным з прыкладаў менавіта такога правінцыйнага музея можна назваць Бабруйскі краязнаўчы музей, які знаходзіцца ў горадзе Бабруйску Магілёўскай вобласці. Аб гэтым выдатна распавядае яго сайт у інтэрнэце, які месціцца па адрасе **http://bobruisk-museum.com**.

Першае, што кідаецца ў вочы, калі карыстальнік зазірне на сайт музея, гэта даволі цікавае агульнае выяўленне. На сінім фоне інтэрфейса знаходзіцца галоўная старонка з тэкстам і выйсцямі на іншыя рубрыкі. Нягледзячы на тое, што сайт мае дзве моўныя версіі — рускую і беларускую, назва падаецца толькі па-руску.

Галоўная старонка сайта змяшчае звесткі пра Бабруйск і музей. Праўда, звесткі гэтыя вельмі лаканічныя і сціслыя, але маюць цікавыя сцвярджэнні. „Бабруйскі краязнаўчы музей — гэта візітная картка нашага горада. Напэўна, складана знайсці чалавека, які пабываў у нашым горадзе і не зазіраў у музей”, — пішуць супрацоўнікі музея ў яго прэзентацыі. Праўда, калі разважаць адпаведна гэтаму сцвярджэнню, то Бабруйск уяўляецца горадам малапісьменных людзей, якіх, хоць яны і жывуць пасярэдзіне Беларусі, беларускай мове не навучылі. Так, у тым жа тэксце мы можам пабачыць слова „Бабруйшчына” з літарай „щ”, якой папросту няма ў беларускай мове. І такія моўныя памылкі, псуючыя ўяўленне аб сайце і музеі, сустракаюцца практычна на ўсіх старонках сайта — „Артемчык”, „Савічев”, „железное стагоддзе”, „адзежа”, „природоведческая калекцыя” і гэтак далей. Ствараецца ўражанне, што стваральнікі беларускамоўнай версіі сайта зрабілі google-пераклад рускамоўных тэкстаў і палічылі, што такая трасянка адпавядае патрабаванням беларускамоўных грамадзян. Бо, па ўсім відаць, менавіта яны прымусілі супрацоўнікаў музея не забыцца пра сваю нацыянальную ідэнтычнасць і мову.

„Прыкра, што сярод наведнікаў музея Вы не жадаеце бачыць мяне, маю сям'ю, маіх сяброў ці сяброў майго дзіцяці. Чаму сайт музея рускамоўны? Дзе версія па-беларуску? Лічыце, калі ласка, маё пытанне скаргай і зваротам грамадзянкі, а таксама канстатацыяй таго, што такі ваш непрафесійны падыход абражае мой гонар і годнасць і распальвае міжнацыянальную варожасць, што з'яўляецца сур'ёзным злачынствам і не спалучаецца з паняццем «культура». Спадзяюся, у якасці адказу на працягу месяца ўбачыць паўнавартасны беларускі сайт”, — напісала на старонцы „Водгукі наведвальнікаў” у снежні 2012 года наведвальніца Крысціна Вітушка. На гэта яна атрымала адказ, што такія справы робяцца не за адну гадзіну. Насамрэч аказалася, што і чатырох гадоў замала, каб стварыць прыстойную беларускую версію сайта музея.

Яшчэ адной рысай правінцыйнасці музея з'яўляецца замоўчванне некаторых значных перыядаў і асаблівасцей у гісторыі роднага горада. „Няма амаль нічога аб Бабруйску падчас Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай (гэта 400 рокаў гісторыі места), аб Бабруйскім замку, аб захопе Бабруйска маскоўскім і запарожскім войскамі ў 1655 року?” — напісаў наведвальнік Зэеў у леташнім красавіку. Ён таксама адзначае, што музей колішняй сталіцы беларускага жыдоўства месціць толькі „маленькі (нават нябачны) куток” з расповедам аб бабруйскіх жыдах.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дарыў дзецям роднае слова



# 105 гадоў з дня нараджэння Васіля Віткі

Беларускі паэт, перакладчык, публіцыст, класік беларускай дзіцячай літаратуры Васіль Вітка нарадзіўся 16 траўня 1911 г. у вёсцы Еўлічы на Случчыне. Сапраўднае яго прозвішча Цімох Крысько. Паходзіў з сялянскай сям'і. Бацька быў ваенным фельчарам, шукаў заробку ў Сібіры, працаваў рознарабочым на чыгунцы. З 1912 г. сям'я жыла ў Омску. Пасля кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. маці разам з дзецьмі вярнулася ў родную вёску Еўлічы. Пазней вярнуўся з фронту і бацька.

Скончыўшы ў вёсцы тры класы, Цімох як выдатнік здаў экзамены экстэрнам за чацвёрты ў суседняй сямігодцы, аднак вучыцца далей не было грошай. Сам навучаў малалетніх дзяцей за харчы і невялікую прыплату. Навучаўся кавальскай працы ў кузні суседа. У 1928 г. скончыў Слуцкую прафесійную школу, пасля працаваў слесарам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Потым была журналісцкая праца ў заводскай шматтыражцы, рэдакцыях розных газет — бабруйскага „Камуніста”, жлобінскага „Ударніка”, сталічных „Чырвонай змене”, „Літаратуры і мастацтве”, часопісе „Полымя рэвалюцыі”. У Бабруйску Вітка пазнаёміўся з пісьменнікам Міхасём Лыньковым, што істотна паўплывала на далейшы лёс маладога пісьменніка.

Васіль Вітка ўдзельнічаў у паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Перад Другой сусветнай вайной працаваў сакратаром Беластоцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. З прыходам вайны на беларускую зямлю працаваў у рэдакцыі газеты „Савецкая Беларусь”, а з 1942 года — у аддзеле прапаганды і агітацыі ЦК КПБ, быў рэдактарам масавых выданняў для акупаваных раёнаў. Супрацоўнічаў з сатырычнымі часопісамі „Партызанская дубінка” і „Раздавім фашысцкую гадзіну”.

З дня ўтварэння часопіса „Беларусь” (студзень 1944) Васіль Вітка працаваў яго адказным сакратаром, з 1948 г. — намеснікам, з 1951 г. — галоўным рэдактарам газеты „Літаратура і мастацтва”. У 1957-1974 гадах — галоўны рэдактар часопіса „Вясёлка”. У 1974-1987 гг. быў сябрам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі „Беларусьфільм”.

Друкавацца Васіль Вітка пачаў у 1928 г. Першы зборнік вершаў „Гартаванне” выйшаў у 1944 г. у Маскве. Затым выйшлі зборнікі паэзіі „Поўдзень”, „Вернасць”, „Ружа і шпак”, „Паверка”, „Вершы”, „Беларуская калыханка”, „Праводзіны лета”, „Вышыні святла”, „Случчына”, „Трэцця пеўні”, зборнік сатыры і гумару „Для дома, для альбома і трохі для эпохі”. Для дзяцей выдаў кніжкі паэзіі і вершаваных казак „Вавёрчына гора”, „Буслінае лета”, „Казка пра цара Зубра”, „Дударык”, „Азбука Васі Вясёлкіна”, „Казкі”, „Чытанка-маляванка”, „Хто памагае сонцу”, „Ладачкі-ладкі”, „Мы будуем метро”, „Мінскія балады”, „Казкі і краскі”, „Госці”, „Загадка пра зярнятка”, „Дзецям” (выбраныя творы ў дзвюх кнігах), „Свята дружбы”, зборнік апавяданняў „Зайчык-вадалаз”. У 1973 г. выйшлі „Выбраныя творы” ў двух тамах. Вітка — аўтар п'ес „Прамень будучыні”, „Шчасце паэта”, прысвечанай Янку Купалу. Напісаў многа літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў на этычныя і выхаваўчыя тэмы. Васіль Вітка вядомы таксама як перакладчык. У 1977 г. выдаў кнігу дзённікаў, нарысаў і апавяданняў „Дзеці і мы”, у 1982 г. — кнігу „Урокі”, у 1988 г. — „Азбука душы”. Адзін з аўтараў чытанак „Роднае слова” для першага, другога і трэцяга класаў. У 1991 г. быў узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны.

Памёр Васіль Вітка 5 ліпеня 1997 г. у Мінску.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# PROLOG DNI PIŚMIENNICTWA SŁOWIAŃSKIEGO

## BIELSK PODLASKI 22-24 MAJA 2016

### 22 maja (niedziela) PRZENIESIENIE RELIKWII ŚW. MIKOŁAJA CUDOTWÓRCY

PLAC RATUSZOWY
13.00 – 18.00

- Kiermasz książek i prezentacja wydawców,
- Pokazy dawnej sztuki drukarskiej – Muzeum Sztuki Drukarskiej i Papiernictwa w Supraślu
- Koncert wykonawców z Polski, Białorusi i Rosji: Bałamutki (Białystok), Żemerwa (Studziwody), Lin (Sankt-Petersburg, Rosja), Chocisławianie (Chocisław, Białoruś), Tuukaczyki (Kobryń, Białoruś), Czabatuchi (Staszany, Białoruś)

### 23 maja (poniedziałek) Konferencja, poświęcona 520-leciu BIELSKIEGO PROLOGU

MIEJSKA BIBLIOTEKA PUBLICZNA
W BIELSKU PODLASKIM
9.00-13.00 i 14.30-16.30

Prelegenci konferencji:

- Antoni Mironowicz (Białystok), Iwan Czarota (Mińsk),
- Johann Wolfgang Niklaus (Olsztyn), Marcin Abijski (Białystok),
- Alena Szaćko (Mińsk), Irena Matus (Białystok),
- Lidia Kułażanka (Mińsk), Grzegorz Jacek Pelica (Łęczna),
- Antoni Arciuch, Aleksander Pierahadau (Grodno),
- Marina Kuzniecowa (Sankt Petersburg), Tatiana Mołczanowa (Sankt Petersburg);

14.30 Kontynuacja konferencji

- Zbigniew Gluza (Warszawa), Grażyna Charytoniuk (Białystok),
- Anna Fionik (Bielsk Podlaski), Ihar Wahlik (Mińsk), Aleksander Kapilau (Mińsk), Adrian Kuprianowicz (Bielsk Podlaski)

MUZEUM MAŁEJ OJCZYZNY
W STUDZIWODACH
13.30
Otwarcie Biblioteki im. o. Grzegorza Sosny

CERKIEW POKROWSKA
17.00
Całonocne Czuwanie ze służbą św. Cyryla i Metodego śpiewane melodiami bizantyjskimi – śpiewa chór kameralny im. Bohdana Onisimowicza

### 24 maja (wtorek) ŚW. ŚW. CYRYLA I METODEGO

CERKIEW POKROWSKA
10.00
Liturgia Święta, śpiewana melodiami bizantyjskimi – śpiewa chór kameralny im. Bohdana Onisimowicza

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. доўгі высокі земляны насып = 13 _ 14 _ 19 _;
2. вялікае памяшканне для публічных мерапрыемстваў = 1 _ 3 _ 11 _ 12 _;
3. народ фіна-угорскай моўнай групы, які насяляе паўночны ўсход еўрапейскай часці Расіі = 25 _ 26 _ 27 _ 20 _;
4. адзінка вымярэння электрычнага зараду = 4 _ 8 _ 5 _ 6 _ 7 _;
5. блакіт над зямлёю = 15 _ 16 _ 17 _ 18 _;
6. цягнецца за іголкай = 23 _ 24 _ 21 _ 22 _;
7. прылада для паганяння жывёлы ў... папугая = 2 _ 28 _ 9 _ 10 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | | |
| 15 | 16 | | | | | | |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | | |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 18 нумара**

Бядро, елка, цмок, леў, Пскоў, шлюб, Піна, жывёлавод, Крычаў, аброць.

Рашэнне: **Добрае слаўцо лепш чым піўцо**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

## 22.05 — 28.05

**(22.03. — 20.04.)** Многа сілы і энергіі, не змарнуеш яе. З 21.05. не разлічвай на іншых, будзь цярплівым, усё ўдасца высветліць і растлумачыць. Удачы! Ад 24.05. сустрэчы і немалая каса! У фінансах усё спрыяе, але не стаў усяго на адну карту. Інвестуй менш, але ў рознае. Дбай аб сваю пячонку.

**(21.04. — 21.05.)** На працы дзейнічай з развагай; будзеш мець больш заняткаў, мала звязаных з абсягам тваёй работы. Форма добрая, але не шкадуй дбання аб цела — схадзі ў салон біялагічнай адновы, да касметолага. 22-28.05. будзеш вельмі зайздросны — больш даверу! Пасля 27.05. будзеш баявіты і прыдзірлівы, не атакуй іншых без прычыны!

**(22.05. — 22.06.)** Нос уверх! Калі нават не ўсё будзе добра складвацца, давер лёсу і не турбуйся. Можаш атрымаць прапанову цікавага, добра платнага занятку. Магчымыя інтрыгі і махінацыі з боку канкурэнтаў. Час праводзь на меншых абаротах. З 24.05. можаш моцна закахацца! Няхай гэта будзе жарсць ва ўсім! 22-27.05. блізкая асоба можа цябе пакрыўдзіць. 22-31.05. не чапай спрэчных тэм, скандал вісіць у паветры. З 27.05. узмоцніцца твая пазіцыя ў спрэчках і дыскусіях.

**(23.06. — 23.07.)** 22-23.05. глянеш на свет больш рэалістычна і твае рашэнні будуць разумнымі. Разварушвай таксама старыя справы. Шмат новых, цікавых знаёмстваў. Хутка справішся з бягучымі заданнямі, вызнач новыя мэты. Пераглянь кухонныя шафкі, выкінь старую ежу і лякарствы. Варушыся, можаш пазбыцца пару кілаграмаў тлушчу.

**(24.07. — 23.08.)** Карысныя абароты спраў, магчымая нейкая супернагода. 21-24.05. будзеш незалежны; магчымыя канфлікты — гэта можа не спадабацца партнёру. Ільвы з першых дзён знака будуць мець шанц пераадолець крызіс у сужонстве, дараваць памылкі. Пасля 24.05. можаш заснаваць суполку, знайсці партнёра з грашыма і толкам; будуць нагоды заробку. Асцярожна паводзь сябе ў дарозе.

**(24.08. — 23.09.)** Прадбачваюцца сямейныя з'езды і сустрэчы; не наракай. 22-28.05. будзеш мець падтрымку ў дзеяннях. Высветліш спрэчныя справы, возьмешся за важныя рашэнні. Але вельмі пільнуйся да 27.05., каб не зрабіць памылкі! Паездзі на ровары! З 25.05. (да 30.05.) не высільвайся, квадратура Юпітара і Сатурна можа падцяць табе крылы!

**(24.09. — 23.10.)** Не заглушвай сваёй злосці 22.05., бо можаш выбухнуць з-за абы-чаго. 22-27.05. самотныя Шалі будуць разглядацца за кімсьці атракцыйным, і такі паявіцца на гарызонце, прытым смяшлівы ды інтэлігентны, на жаль, таксама хвалько. Да 27.05. будзеш рабіць промахі-канфузы, асабліва пры другім поле. Можаш зарабіць, але прымяні неканвенцыянальныя задумы. Але нічога не афармляй праз знаёмствы!

**(24.10. — 22.11.)** Шэф можа несправядліва папракнуць цябе ў памылках. З 28.05. адчуеш сябе самаўпэўненым і гатовым да прыгод, але не пераборшчвай з рызыкай. Тваё кампанейскае жыццё проста выбухне! Гуляй добра, кошты дзялі папалам. На працы безумоўны поспех, з-за чаго могуць быць скрыгаты з зайздроснымі калегамі. Цані тое, што маеш; лёс адорыць цябе чымсьці асаблівым.

**(23.11. — 22.12.)** Стараючыся задаволіць усіх, хутчэй не задаволіш нікога. Пасля 24.05. свабодная сувязь набярэ румянцу. Горача ў спальні! Выходзь часта да людзей. На працы і пры грашах пакуль не высоўвайся, зарыентуйся, калі не маеш поўнага агляду, нічога не вырашай. Да 27.05. маеш вельмі моцную волю і ўпартасць, можаш парваць з кепскімі звычкамі. З 25.05. (да 31.05.) лепш нічога не падпісвай — гэта час жніва абманшчыкаў.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш проста тапіцца ў справах, якія неабходна афарміць. Будзе вяртацца незакончанае. Амаль усе да цябе пазітыўна ставяцца. Але будзеш назіраць, і раскрыеш фальш і нячыстую гульню. Да 27.05. паявяцца шанцы для развою і здабыцця новых умеласцей, якія неўзабаве спатрэбяцца. Калі шукаеш працы, разглянься за работай у іншых галінах. Руш на прыроду.

**(21.01. — 19.02.)** Неператамляйся, бо хутка не зрэгенеруеш сілы. Але пабачыш свет у светлых колерах (ад 24.05.) і шчасце зноў пачне табе спрыяць. Асабліва ўзрастуць твая мілата і краса, выклічаш зацікаўленасць. З 25.05. некаторыя асобы з твайго атачэння пакажуць свой сапраўдны твар. Паміж сябрамі захоўвай нейтральнасць. Прыстойны ўзровень у фінансах.

**(20.02. — 21.03.)** Смела стартуй з планамі. Рыбы з сакавіка маюць многа нагод для заробку і кахання (хаця з 25 да 31.05. цяжка будзе табе палапацца ў пачуццях). У каханні няхай усё будзе ясным. Калі шукаеш занятку, знай сваю вартасць і не пагаджайся на ўсё што табе запрапануюць. Пры грашах запануеш над сітуацыяй і не будзеш выдаваць больш чым зарабляеш. 28.05. будзеш у выдатнай форме і чакае цябе відны поспех.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (43)



У Высоцку я не сустрэла нікога, каго можна было б палічыць турыстам. З кожнага завулка выпаўзала няхітрая рэчаіснасць. Каму тады патрэбны тут музей? І навошта гэты цэлы клопат з захаваннем арыгінальных экспанатаў? Будынак і прадметы адчайна дамагаліся ўжо кансервацыі і мадэрнізацыі. Музей аднак трываў і прамаўляў не толькі як рэгіянальная цікавінка. Ён прамаўляў як сумленне і голас справядлівых. Нідзе раней ва Украіне я не сустрэла стэндаў, прысвечаных ахвярам „валынскай разні" ці генацыду габрэяў. Украінцы як агню пазбягаюць гутаркі пра гэтыя падзеі. Заўсёды тут недагаворанасць, абагульненасць. Або татальнае ігнараванне і няведанне. Нават з вуснаў настаўнікаў можна пачуць такое: *не ведаю, я ж тады не жыў!*

У высоцкім музеі ўразіла мяне персаналізацыя ахвяр. Людзі былі названы па імені і прозвішчы, значыўся іх узрост і прафесія. Такі падыход абуджае ўспрыманне: тут жа дзеці, безабаронныя старэчы, паважаны лекар ці бедны фурман. Яшчэ больш дзейнічаюць на ўяўленне ўспаміны відавочцаў і сведак злачынстваў. Але не адной траўмай і крыўдай жыве чалавек. Рыгор Яцута заказаў пераклад з англійскай на украінскую мову ўспамінаў высоцкіх габрэяў, якія яшчэ да вайны з'ехалі ў Палесціну або ў Амерыку. Навошта яшчэ такое пашырэнне тэмы?

— Важна, каб паказаць людзям, што да іх іншыя таксама любілі Высоцк, дбалі пра яго прэстыж і культуру. Патрэбны прыклад? З мястэчкам звязаны музыкант і вайсковец у адной асобе Роберт Сатаноўскі. У Высоцку ганарацца, што першай настаўніцай польскага музыканта была жыхарка Высоцка Дора Мілько. У музеі яго стэнд і асабістыя ўспаміны пра ўдзельніцтва ў савецкай партызанцы.

Ахове спадчыны спрыяюць мясцовыя людзі. У Высоцку, як нідзе, захаваўся габрэйскі квартал, і ён прамаўляе як музей пад адкрытым небам. Новыя кватаранты амаль нічога не змянілі ў выглядзе даваенных будынкаў і панадворкаў. Чаму так ласкава абышліся з даранай маёмасцю? Звычайна, такія будоўлі знішчаюць датла, каб яны не наклікалі жудасных успамінаў. А тут усё трывала і дыхала цеплыней жыцця. Я глядзела на задбаныя агародчыкі з разнаколернымі кветкамі і не ведала як думаць. Колькі часу патрабавалі новыя кватаранты, каб прыжыцца ў свежым месцы? Ці ведалі яны імёны сваіх колішніх гаспадароў? Што думалі, калі бралі ў рукі іх гаршкі і талеркі, якія засталіся ў кухонных шафах? Або калі глядзелі на сябе ў панарамнае люстра з трыма сценкамі? Ці не баяліся прывідаў, помсты з-за магілы, кашмарных сноў?

А можа не было такіх пытанняў і пра ўсё вырашала практычнасць. Той, хто абгарэў у вайну, быў удзячны лёсу і яго колішнім уласнікам за дараванае дабро.

* * *

Хоць на двары ўсё імжэў дождж, мы выправіліся на прагулку па пасёлку. На вуліцы абміналі нас фурманкі, або дзядзькі на роварах. Усе ўсіх ведалі і кідалі на прывітанне „Добры дзень"!

— А ў вас таксама пасвяць кароў па чарзе? — спытала я.

Дзе-нідзе на асфальтаванай дарозе, якая вяла ў цэнтр, ляжалі прысохлыя каровіны ляпёшкі.

Вядома, выпасваюць. Ну, як гэта выглядае? На нашай вуліцы прыблізна сорак двароў. Кожны гаспадар вымушаны адпасці дзень за сваю карову. Чарга выпадае больш-менш праз сорак дзён.

— Вы таксама пасвіце кароў?

— А што тут дзіўнага? Пасвіў, як усе! Цяпер ужо прадаў карову і звольнены ад гэтага занятку.

Экс-галава Высоцка і дырэктар музея не лічыў прыніжэннем і патратай гонару выставіць сябе ў ролі пастуха. Наадварот, гэта быў доказ племянной роўнасці і дэмакратыі. Мяне што і крок уражваў працяг „музейнай" даўніны ў сучасным штодзённым жыцці. У абліччы эканамічнага крызісу людзі вярнуліся да традыцыйных заняткаў. Яны ўмелі ўсё зрабіць сваімі рукамі. Садзілі *картоплю*, разбівалі агароды, гадавалі кароў, займаліся рыбалкай, збіралі грыбы і журавіну.

— На Палессі ніколі не было голаду, — кажа Рыгор Яцута. — Той, хто меў больш за іншых, дзяліўся або абменьваўся з суседам. Ён ведаў, што калі яго прыцісне бяда, сусед таксама дапаможа. Як пад заказ у час нашай вандроўкі па горадзе спрацавала добрасуседская дапамога. Ніхто не ведаў, ці сёння прыедзе аўтобус. Калі Рыгор Яцута сустракаў каго-небудзь па дарозе, ён пытаў: „А не ведаеце, хто сёння на Дуброву паедзе?". Людзі падавалі пытанне далей, званілі, распытвалі. Калі мы дайшлі да магазіна „Карона", усё ўжо было вырашана і аформлена. Мне сказалі, што ёсць шафёр, нейкі Карповіч, які праз гадзіну забярэ мяне ў Дубровіцу. Якраз хапала часу, каб паглядзець высоцкі замак і глянуць на мястэчка вачыма майго субяседніка.





У цэнтры зноў абагнала нас фурманка. Цёткі і дзядзькі, у выцвілых апранахах, з плеценымі кашамі, спяшалі на поле пасадзіць пад дожджык *картоплю.* Гаспадар не толькі дазволіў сфатаграфаваць каня і сваю працоўную каманду, але і спыніў фурманку. Усё на тое, *каб куонь не выскачыў з майго экрана!*

* * *

Замак пабачыла я на карціне ў музеі. Ён уяўляў сабой сярэдневяковую крэпасць, абведзеную частаколам на высокім насыпе. Побач карціны ляжаў сапраўдны тураў рог, знойдзены дзесьці на прадмесці пасёлка. Зараз гістарычнае месца акаляў парк, насаджаны дубамі, ліпамі і ялінай. Па дарозе мы мінулі царкву.

— У вас якая царква? — спытала я, маючы на ўвазе патрыярхат.

— Праваслаўная, украінская, — адказаў Рыгор Яцута.

Калі я распытала больш дэталёва, аказалася, што Высоцк моцна трымаецца традыцыі, то-бок, прыналежыць Маскоўскаму патрыярхату. Каб не паясненне, я падумала б нешта адваротнае, менавіта што тут Кіеўскі патрыярхат.

Замкавая гара, у адрозненні ад малюнка на карціне, ледзь была прыкметнай у парку. На самым версе, адкуль адкрываўся від на Гарынь і лугі, знаходзіліся магілы чырвонаармейцаў, якія загінулі ў абароне Высоцка. Месца значыў помнік байцу, размаляваны на залаты колер, і праваслаўны крыж, перавязаны ручніком.

Рыгор Яцута знайшоў пісьмовыя крыніцы з 1774 года, дзе дэталёва апісаны замак. На жаль, ніхто ў наваколлі не ведаў польскай мовы, каб зразумець напісанае. Я на хаду патлумачыла дакумент. Вось фрагмент арыгінала:

***Ten zamek stoi na górze niewielkiej, nad odnogą rzeki Horynia. Z przyjazdu z miasteczka do zamku mostek na fosie około tego zamku zdezelowany. Zatem wrota stare, z których jadąc prosto przez dziedziniec nieobszerny rezydencyja dawna. Z dziedzińca do sień wchodząc po prawej rence piersza izba, w której okien dwie, drzwi troje, jedne do wejścia z sieni na zawiasach żelaznych z zamkiem wewnętrznym, drugie do komory na zawiasach żelaznych, w tej izbie piec kaflowy z żółtej i czerwonej poliwy. Drzwi trzecie do izby pobocznej na zawiasach żelaznych...***

На замку знаходзіліся іншыя жылыя памяшканні, між іншым, стары будынак са сталовай і каморамі, з пяццю вокнамі з белага шкла, апраўленымі ў свінец. Пры замку была новая лядоўня, вазоўня, рыбнік (спецыяльнае памяшканне на рыбу), стайня і новы бровар. Далей стаялі два фальварковыя будынкі і хлявы пад саламянай страхой...

* * *

У час нашай вандроўкі па мястэчку я папрасіла ў Рыгора Яцуты, каб расказаў пра сваю сям'ю. Гэта быў самы сакавіты расказ, пачуты ў гэтым месцы:

— Мой бацька быў добры і справядлівы, але надта суровы, — пачаў мой субяседнік.

Нарадзіўся як пятае дзіця ў сяле Загул (сёння сяло завецца Залужжа). У яго было сем братоў і тры сястры. Бацька працаваў лесніком, раніцай ішоў на працу ў лес і вяртаўся дамоў адвячоркам. Увесь гаспадарчы клопат быў на плячах маці і дзяцей.

— З наймалодшых гадоў нас прывучалі працаваць Калі я стаў на ногі, мяне ўжо выправілі пасвіць гусей. А як падрос, пасвіў ужо кароў, пасля коней. Калі прыйшоў час выбіраць прафесію, не думаў, хацеў, як старэйшы брат і бацька, стаць лесніком. Лясны тэхнікум закончыў з высокай ацэнкай, мог выбіраць месца працы ў цэлай Ровенскай вобласці. Але ж мне захацелася рамантыкі. Я паехаў працаваць у Краснаярскі край. Пасля прызвалі ў армію. Служыў на Алтаі, у ракетных войсках.

Алтай, у адрозненні ад Краснаярскага краю, не спадабаўся яму:

— Бо там адзін стэп, летам жара, а зімой невыносная халадэча. А я сумаваў па лесе. Для палешука лес — гэта дом. Там месца для кожнага, для маленькай птушкі і вужа, для ваўка і чалавека.

Часта ўспамінае дзіцячыя начлегі ў лесе. У сяле не хапала поля, за будынкамі пачыналіся пясчаны горы. Яцуты абраблялі поле ў лесе, дваццаць кіламетраў ад хаты. Урочышча называлі *Ляснянкай*, ад рэчкі Лясная. На загонах сярод лесу вырошчвалі збожжа і бульбу, загатоўвалі сена на балоце. Скошаную траву выносілі на спецыяльных насілках на сухі груд, там яе сушылі і клалі ў стог. А па сена прыязджалі ўжо зімой, калі мароз добра скаваў зямлю і можна было праехаць канём. У час сенавання заставаліся начаваць у лесе. Жылі ў шалашах, пастаўленых ад рукі з жэрдак і лісця.

— Ці апавядалі тады нейкія казкі, былі? — пытаю.

— Найбольш прыемна было памаўчаць, паслухаць мову і шэпт лесу, — чую ў адказ.

Мы завандравалі ўжо на канец мястэчка, над Гарынь. Чакалі спадара Карповіча, які меў мяне завезці ў Дубровіцу. Рыгор Яцута меў яшчэ адзін падарунак на развітанне. Ён паглядзеў на раку і замест штось сказаць, пачаў спяваць... Любімую песню з роднай хаты. Песню спявала яго дваюрадная бабуля Наталка, з якой разам у часы дзяцінства пасвіў гусей на лузе. Мне ўдалося запісаць фрагмент:

*Ой віе'е віт'ёр да подвывае,*
*А сын на Вкраїну да од'езжжае.*
*Сын на Вкраїну да од'езжжае,*
*А його маті да нэ пускае.*
*Ой не йдь, сыну, да ночуй вдома,*
*Послухай, сыну, мойго слова.*
*А сын матеры да нэ послухав,*
*Оседлав коня, сів дай поїехав.*
*Да йдэ полем, да йдэ другым,*
*А на трэтьому остановывса.*
*Ой чого сівы кунь дай остановывса,*
*А молоды хлопец дай зажурывса....*

— І што было далей? — спытала, прадчуваючы найгоршае.

— Ён загінуў на вайне, — кажа Рыгор Яцута. — Маці добра яму гаварыла, не трэба было ехаць...

Апошнія словы прагучалі як праява палескага патрыятызму і каментарый да сучасных падзей ва Украіне.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960